


# Наша слова

*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ*




**Газета выходзіць з сакавіка 1990 года** **№ 43 (1350) 25 КАСТРЫЧНІКА 2017 г.**


## Пад расцяжкай "Выдатнаму сыну Беларусі..." у Швейцарыі адкрылі помнік Касцюшку

21 кастрычніка ў Швейцарыі ў горадзе Залатурн адкрылі помнік Тадэвушу Касцюшку. Мясцовыя беларусы прыйшлі на адкрыццё з бел-чырвона-белым сцягам і расцяжкай "Выдатнаму сыну Беларусі ад удзячных суайчыннікаў".



Ініцыятыва ўшанавання героя Беларусі, Польшчы і ЗША належыць швейцарскім беларусам. Аднак напярэдадні адкрыцця адбыўся канфлікт. Польская амбасада выступіла супраць надпісу на шыльдзе: *"Выбітнаму сыну Беларусі ад удзячных суайчыннікаў"*. У выніку гэты тэкст так і не з'явіўся на шыльдзе, аднак беларусы прыйшлі на адкрыццё помніка з расцяжкай "Выдатнаму сыну Беларусі ад удзячных суайчыннікаў" на беларускай і нямецкай мовах.

Помнік асвяціў айцец Сяргей Стасевіч з Лондана.

На адкрыцці помніка прысутнічалі дыпламаты Беларусі, Польшчы і Літвы, дырэктарка сядзібы-музея Касцюшкі ў Косаве (Івацэвіцкі раён) Наталля Сушко.

***Дзмітры Гурневіч.***
*Фота Аляксандра Сапегі.*



**Грамадскае аб'яднанне**
**"Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны"**
*220034, г. Мінск вул. Румянцава, 13, тэл. 263-85-11, разліковы рахунак № BY84BLBB30150100129705001001 у Аддзяленні па Мінску і Мінскай вобласці №539 ААТ Белінвестбанк", г. Мінска, код BLBBBY2X*

**13 кастрычніка 2017 г. №105**

Кіраўніку Адміністрацыі
Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь
Качанавай Н. І.,
вул. К. Маркса, 38,
220016, г. Мінск

Аб ушанаванні
памяці Тадэвуша Касцюшкі

Шаноўная Наталля Іванаўна!

Не сумняваюся, што Вы ведаеце аб тым, што польскія ўлады выступілі супраць належнага ўшанавання памяці нашага славутага земляка Тадэвуша Касцюшкі ў Швейцарыі.

Справа ў тым, што беларусы Швейцарыі за свае грошы, без усялякай падтрымкі беларускай дзяржавы зрабілі помнік Тадэвушу Касцюшку і вырашылі ўрачыста адкрыць яго з дазволу мясцовых уладаў у тым горадзе, дзе ён правёў апошнія гады свайго жыцця, памёр і быў пахаваны.

Польскія ўрадоўцы выступілі супраць таго, каб на шыльдзе ў памяць Касцюшкі былі словы на беларускай мове аб тым, што Касцюшка - сын Беларусі.

Добра, што наша МЗС зрабіла адпаведную заяву, але абмеркаванне гэтага пытання ў СМІ працягваецца.

12 кастрычніка адзін з польскіх журналістаў заявіў у прамым эфіры, што ў гэтым вінаватыя самі беларусы, бо ў Мінску няма вуліцы Касцюшкі і помніка ў гонар нашага героя.

У сувязі з гэтым хачу адзначыць, што па ініцыятыве ТБМ у гадавіну юбілею з дня народзінаў Касцюшкі было сабрана болып за 5 тысяч подпісаў грамадзян з прапановай назваць адну з вуліц Мінска ў яго гонар.

Мінскія ўлады паабяцалі гэта зрабіць, але нічога зроблена не было.

Я таксама прапаноўваў вуліцу Берута, чалавека, які ў час вайны супрацоўнічаў з фашысцкімі акупантамі, а потым праводзіў у Польшчы масавыя палітычныя рэпрэсіі, пераназваць у гонар Касцюшкі.

Было б добра, каб гэтую прапанову падтрымаў Кіраўнік нашай дзяржавы, а таксама выдзеліў сродкі на выраб і ўстаноўку коннага помніка нацыянальнаму герою Беларусі, Польшчы і ЗША ў раёне адпаведнай вуліцы.

З павагай,
старшыня ТБМ Алег Трусаў.


ISSN 2073-7033




## 100 гадоў Эльжбеце Радзівіл

**Эльжбета РАДЗІВІЛ** (Эльжбета Марыя князёўна Радзівіл на Нясвіжы герба "Трубы", пасля замужаства Э. Тамашэўская; 21 кастрычніка 1917, Лондан, Вялікабрытанія) - князёўна, дачка перадапошняга ардыната Нясвіжа Альбрэхта Радзівіла і англічанкі Дораці Паркер Дзікан (Dorothy Parker Deacon).

Шлюб Альбрэхта Радзівіла з маці Эльжбеты быў нядоўгім, Эльжбета жыла з маці ў Парыжы і Рыме і толькі час ад часу адведвала бацьку ў Нясвіжы, апошні раз - у 1935 годзе. На гэты момант жыве ў Варшаве.

Эльжбета Радзівіл упершыню наведала незалежную Беларусь у 1993 годзе намаганнямі прафесара Адама Мальдзіса.

У траўні 2009 года адбыўся неафіцыйны візіт князёўны ў Беларусь разам з іншымі прадстаўнікамі роду Радзівілаў, падчас якога Радзівілы наведалі Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі, Нацыянальную бібліятэку Беларусі, Нацыянальны мастацкі музей Беларусі ў Менску, а таксама гарады Мір і Нясвіж, вёскі Паланечку і Ішкальдзь.



У ліпені 2009 Эльжбета Радзівіл у суправаджэнні некалькіх прадстаўнікоў роду зноў наведала Нясвіж.

- Ведаеце, я зараз скажу вам не зусім прыемную рэч… Гэта вялікая ганьба, што вы ў Беларусі не гаворыце па-беларуску… Я адмыслова прыслухоўваюся ўжо колькі дзён… Ведаеце, калі б нас не пагналі адсюль у 1939-м, я сёння размаўляла б па-беларуску. Бо мой бацька з нясвіжцамі размаўляў выключна па-беларуску, - заявіла Эльжбета Радзівіл падчас візіту ў Нясвіж у ліпені 2009 г.

"Пані Эльжбета паранейшаму ў добрым настроі, мае светлы розум і фенаменальную памяць, што датычыць деталяў нясвіжскай маладосці", - паведаміў журналіст Глеб Лабадзенка, які віншаваў князёўну са 100-годдзем па тэлефоне (*nn.by*).

***Вікіпедыя.***

## 80 гадоў з дня нараджэння Яўгена Куліка



**Яўген КУЛІК** (31 кастрычніка 1937 - 12 студзеня 2002) - беларускі мастак пасляваеннага перыяду, аўтар эталону герба "Пагоня" ў якасці дзяржаўнага герба Рэспублікі Беларусь у 1991-1995 гг.

Нарадзіўся ў Менску. Пасля вайны скончыў Менскае мастацкае вучылішча, а пасля Беларускі тэатральна-мастацкі інстытут. Ад 1963 ён браў удзел у мастацкіх выставах. Майстэрня Куліка, што знаходзілася ў Менску насупраць будынка КДБ, стала ў 1960-ыя гады нацыянальным асяродкам сталіцы і атрымала назву "На паддашку".

У станковых творах распрацоўваў тэмы гісторыі і культурнай спадчыны беларускага народа: серыі "Помнікі дойлідства Гарадзеншчыны" (1974 г.), "Славутыя дзеячы гісторыі і культуры Беларусі" (з 1993 г.), малюнкаў рэканструкцый "Замкі Беларусі", лісты "Кірмаш на Беларусі ў XVIII ст." (усе 1977 г.), "Хрыстос прызямліўся у Гародні" паводле рамана У. Караткевіча (1978 г.), "На куццю" паводле паэмы Я. Купалы (1982 г.), "Памяці Алены Кіш" (1983 г.), "Паўстанне 1863 г. на Беларусі" (1988 г.), трыпціх "Усяслаў Чарадзей, Ефрасіння Полацкая, Лазар Богша" (1996 г.).

У 1970-80-ыя гады займаўся кніжнай графікай, аформіў дзясяткі кніжак, і найлепшымі з іх былі: "Слова аб палку Ігаравым", "Ад гоману бароў" Александровіча, "Мушка-зелянушка і Камарык-насаты тварык" Багдановіча, "Сонечны клубочак" Зуёнка. Але сапраўдным шэдэўрам Яўгена Куліка стала кніга "Песня пра зубра" Міколы Гусоўскага. Завершанасцю кампазіцый, сінтэзам выяўленчых сродкаў вылучающа ілюстрацыі да кніг А. Вольскага і інш.

Вельмі вядомы яго графічныя серыі "Помнікі дойлідства Гарадзеншчыны", "Замкі Беларусі", "Паўстанне 1863 г. у Беларусі".

У 1991 гадзе стаў адным з аўтараў мадэрнізаванага варыянту герба "Пагоня".

Пахаваны на Кальварыйскіх могілках у Менску. У лістападзе 2005 года на могілках быў адкрыты помнік Я. Куліку.

***Вікіпедыя.***

*Алена Анісім*

# КАРОТКАЯ СПРАВАЗДАЧА

Прывітанне, шаноўныя сябры!

Вось і мінуў першы год працы ў Палаце прадстаўнікоў. Завяршала я яго паездкай у складзе афіцыйнай дэлегацыі ў Страсбург на паседжанне камітэта па палітычных пытаннях. Уключылі мяне па той прычыне, што я была тым адзіным дэпутатам, хто пасля звароту Андрэя Палуды агучыў пытанне пра ўвядзенне мараторыю на прымяненне смяротнага пакарання ў Палаце прадстаўнікоў напрыканцы 2016 г. і падчас "Вялікай размовы" з кіраўніком краіны напачатку 2017 г. Пасля былі перамовы на гэты конт з праваабаронцамі, сустрэча з А. Рыгоні ў сакавіку 2017, інтэрвію "Звяздзе" (пакуль не апублікавана).

У Страсбургу я выступіла і на паседжанні камітэта па палітычных пытаннях, і на канферэнцыі, прысвечанай праблематыцы смяротнага пакарання ў Еўропе, і на сустрэчы прадстаўнікоў левых сіл.

Падчас сваіх выступаў я імкнулася данесці да еўрапейскіх дэпутатаў важнасць сваёй дзейнасці ў пашырэнні беларускай мовы ў грамадстве, працу па стварэнні нацыянальнага ўніверсітэта з беларускай мовай навучання ў Беларусі. Бо адсутнасць магчымасці навучацца на беларускай мове ў Беларусі - гэта таксама парушэнне асноўных правоў і свабод.

Але хачу вярнуцца да вынікаў гадавой дзейнасці.

1. Зроблена многа невялікіх, але важных для людзей спраў у акрузе: дапамога ў працаўладкаванні, у абароне ад гвалту, рашэнне па капітальным рамонце дома. Некаторыя яшчэ ў працэсе выканання, у прыватнасці па забеспячэнні якаснай вадой у аграгарадку Вішнявец і шмат інш. Прыемна, калі людзі ў раёне кажуць: "Нікто столькі часу не праводзіў у акрузе да вас". Зразумела, што гэта камплімент, тым не менш...

2. Запушчаны механізм па прыняцці законаў адначасова на дзвюх мовах у другім чытанні. Супраціўленне моцнае, але буду прабіваць да канца.

3. Нягледзячы на тое, што ёсць прыклады дапамогі ў канкрэтных судовых спрэчках, я вырашыла мінімізаваць свой удзел у такіх справах. Маё ўмяшанне ў выглядзе звароту мала чым дапамагае. Таму на будучае прашу прабачыць, калі я буду ўхіляцца ад такіх зваротаў.

4. На закіды пра тое, што я так і не надзела бел-чырвона-белы значок, адкажу словамі аднаго дэпутата. "Год назад сказалі, што Вы - апазіцыя. Вы сапраўды ў апазіцыі да тых, хто не шануе беларускую мову". Думаю, што справа не толькі ў тым, каб рабіць нешта фармальнае (да прыкладу дэманстратыўна насіць - не насіць значок), але ў сутнасці зробленага.

Вядома, я напісала не пра ўсё, што было зроблена. Тым не менш лічу, што год прайшоў вынікова. І хачу выказаць сваю ўдзячнасць многім людзям.

1. Я дзякую сваім афіцыйным памочнікам, сваім паплечнікам з ТБМ, грамадскай супольнасці, сваім выбаршчыкам за разуменне, падтрымку і супрацу.

2. Я ўдзячная ўсім журналістам, (але найбольш з незалежных СМІ, бо яны часцей праяўлялі пільную ўвагу да маёй дзейнасці), за іх працу,

3. Я хачу падзякаваць сваім апанентам і крытыкам, бо праз вашыя "ўколы" я разумею, што працую нездарма, а ад вашых нападак станаўлюся мацнейшай.

У мяне яшчэ шмат задач - дробных і больш значных, на ўзроўні акругі і на дзяржаўным узроўні. Я не ведаю, што мне з задуманага ўдасца зрабіць. Але хачу, каб атрымалася ўсё - дзеля пашырэння беларускай мовы, дзеля паляпшэння жыцця нашых людзей, дзеля незалежнасці і ўмацавання нашай адзінай роднай Беларусі!

# Карысная і цікавая канферэнцыя

10 кастрычніка 2017 года адбылася канферэнцыя "Слова. Кніга. Лёс.Творчая і грамадская дзейнасць Янкі Купалы ў кантэксце беларускай асветніцкай традыцыі", якую арганізавалі Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь, Дзяржаўны літаратурны музей Янкі Купалы і міжнародны фонд Янкі Купалы. XII Міжнародныя Купалаўскія чытанні прысвечаны 135- годдзю з дня нараджэння Янкі Купалы і 500-годдзю беларускага кнігадрукавання...



З прывітальнымі словамі да ўдзельнікаў інтэлектуальнага свята выступалі: дырэктар Дзяржаўнага літаратурнага музея Янкі Купалы Алена Раманаўна Ляшкевіч, начальнік галоўнага ўпраўлення культуры і аналітычнай работы Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь Васіль Мечыслававіч Чэрнік, доктар філасофіі, пісьменнік, пасол міністэрства замежных і еўрапейскіх спраў Славацкай Рэспублікі Мар'ян Серватка, а таксама новы старшыня Міжнароднага фонду Янкі Купалы, галоўны рэдактар газеты "Медыцынскі Веснік" Таццяна Сівец. Замежнаму паслу быў уручаны нагрудны знак Мінкульта.

У пленарным паседжанні прыняла ўдзел больш за 20 даследчыкаў - музейшчыкаў, даследчыкаў- філолагаў. Грамадскасць з цікавасцю праслухала даклад Вячаслава Пятровіча Рагойшы, Эліны Карлаўны Свірыдовіч, Вольгі Генадзеўны Пархімовіч, а таксама Марыны Іванаўны Плаўскай...

Бязумоўна спадабаўся даклад магістра філалагічных навук, аспіранта Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта, адказнага сакратара часопіса "Полымя" Юліі Аляксандраўны Алельчанкі. Было вельмі цікава! Было зададзена шмат пытанняў...

А вось сябрам колішняга клуба "Беларуская хатка" спадабаўся даклад загадчыка мемарыяльнага музея Максіма Багдановіча "Беларуская хатка" Дзяржаўнага музея гісторыі беларускай літаратуры Тацціяны Лабады.

У кулуарах было сказана, што інтэлектуальны клуб магчыма адновіць сваю дзейнасць!

Пасля канферэнцыі была арганізавана экскурсія па экспазіцыях і выставах музея. Таксама было вельмі цікава.

***Аляксей Шалахоўскі,***
*гісторык культуры, краязнавец, журналіст.*

*Насустрач чарговаму з'езду ТБМ*

# Беларуская мова як адзіная дзяржаўная - галоўны гарант рэальнага суверэнітэту нашай Бацькаўшчыны

***(Сваю публікацыю прапануем у якасці дадатку да выніковых матэрыялаў XIII з'езду ГА "ТБМ імя Ф. Скарыны")***

На дварэ XXI стагоддзе, а беларусы на сваёй этнічнай радзіме працягваюць жыць ва ўмовах чужога дзяржаўнага інфармацыйнага асяроддзя, якое прымусова было навязана ім знешнімі сіламі некалькі стагоддзяў таму.

Родная (этнічная) мова любой нацыі ёсць яе самая вялікая сакральная каштоўнасць, гарант поўнага, рэальнага суверэнітэту. Беларуская мова - душа беларуса, глеба для фармавання, росту нацыянальнай свядомасці і годнасці. Родная мова ёсць ні з чым непараўнальным духоўным набыткам. Яе, як родную маці, трэба абараняць, шанаваць, быць гатовым нават ахвяраваць сваім жыццём, каб толькі не даць памерці гэтаму неацэннаму нацыянальнаму багаццю.

Сёння стан базавай, гэта значыць першай дзяржаўнай мовы - мовы беларускай - інакш нельга назваць, як катастрафічным з-за ні чым неабгрунтаванага валюнтарысцкага ўвядзення афіцыйнага двухмоўя, якое было патрэбна толькі дашчэнту зрусіфікаванаму чыноўніцкаму апарату. Гэта вялікае злачынства, што прыняты ў 1990 годзе дзяржавай прагрэсіўны з усіх пазіцый Закон аб адзінай дзяржаўнай мове ў Беларусі дзейнічаў толькі няпоўных 5 гадоў. Праведзенымі ў траўні 1995 і ў лістападзе 1996 г. рэферэндумамі сама дзяржава, хутчэй за ўсё выдатна прадбачачы сённяшнюю тупіковую сітуацыю ў моўнай сферы, свядома пазбавіла беларускае слова магчымасці быць запатрабаваным у афіцыйным і грамадскім жыцці. Яно амаль у поўным аб'ёме абслугоўваецца рускай мовай, што пазітыўна ўплывае на імклівую татальную русіфікацыю нашай Бацькаўшчыны. У выніку на сваёй гістарычнай зямлі беларусы засталіся фактычна не толькі без сваёй роднай мовы, але і самабытнай нацыянальнай культуры, і да таго ж яшчэ жывуць у сфальсіфікаванай гісторыі. Мова і культура карэннага этнасу ўсіх краін свету нязменна належаць да найважнейшых стратэгічных складнікаў нацыянальных інтарэсаў дзяржавы.

Выключная арыентацыя дзяржаўнай моўнай палітыкі на Расію вылілася праз 23 гады ў амаль поўнае панаванне рускай мовы ў нашым Краі. Бясспрэчна, у 1994 г. Прэзідэнту краіны Аляксандру Лукашэнку давялося прыняць беларускую нацыю моцна здэфармаванай русіфікацыяй. Адзіную у нас дзяржаўную мову неабходна было б мэтанакіравана спяліць, вызваляць ад шкодных наступстваў русіфікацыі мінулых гадоў. Прэзідэнцкая ўлада гэтага не рабіла, што прывяло да сапраўднай нацыянальнай трагедыі беларусаў: яны, як ніколі да гэтага, амаль спрэс анямелі ў роднай мове, што вельмі трагічна: сталі практычна абыякавымі да сваёй дзяржаўнасці, ніколькі не перажываючы, што яна будзе немінуча страчана пасля поўнага завяршэння інтэграцыі з Расіяй у Саюзную дзяржаву.

Так сталася ў жыцці Беларусі (з лета1994 г. і да нашых дзён), што толькі ад Прэзідэнта залежыць, будзе ў беларусаў працяг уласнай гісторыі, ці ў другім - трэцім пакаленнях ўсё абарвецца. Патрэбна рашучая палітычная воля Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, які здольны праявіць мудрасць сапраўднага, празорлівага нацыянальнага палітыка, які жыве не толькі сённяшнім днём, а і добра бачыць далёкую перспектыву.

Бяром на сябе смеласць і адказнасць паклікаць Вас, Аляксандр Рыгоравіч, да глыбокай самаацэнкі, самааналізу моўнай палітыкі. Вы мужная, рашучая ў дзеяннях асоба, таму хочацца верыць, што зможаце выправіць моўную сітуацыю. Упэўнены, што гэта абавязкова стане вялікім гістарычным подзвігам першага Прэзідэнта. Нашыя развагі і прапановы грунтуюцца на бачанні ў перспектыве Рэспублікі Беларусь па-сапраўднаму рэальна суверэннай дзяржавай, з самабытным, адрозным ад сваіх суседзяў этнакультурным абліччам, што не дасць ні сябрам ні ворагам зблытаць яе ні з Расіяй, ні з Польшчай, ні з Украінай.

Каб стаць беларускаму народу самім сабой, а не быць цьмянай копіяй рускага народа, да чаго вядзе сучасная нацыянальная палітыка Прэзідэнцкай вертыкалі, яе першачарговая на сёння задача ўзаконіць беларускую мову як адзіную дзяржаўную мову ў Рэспубліцы Беларусь. Гэта дыктуецца патрэбамі ўстойлівага развіцця яе тытульнай нацыі, арганічна вынікае з прагрэсіўнай сусветнай практыкі дзяржаўнага рэгулявання моўных працэсаў. Не выпадкова ж, а цалкам ў поўнай адпаведнасці з ёй у Расейскай Федэрацыі і ва ўсіх створаных на пастсавецкай прасторы краінах дзяржаўнай мовай з'яўляецца толькі адна мова - мова карэннага этнасу. Навошта ж сярод краін СНГ Рэспубліцы Беларусь быць белай варонай і з прычыны недасканалага заканадаўства несці каласальныя этнакультурныя страты, рызыкаваць лёсам саміх беларусаў?!

Мова - душа Народа. Для вяртання беларусам іх роднай мовы ва ўсе сферы жыццядзейнасці грамадства неадкладна карэнным чынам выправіць моўную сітуацыю ў Беларусі. Для чаго прапануем у першую чаргу:

а) аднавіць дзейнасць гістарычных па сваім значэнні законаў аб мовах, прынятых дэпутатамі БССР. Гэта Закон Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі "Аб мовах у Беларускай ССР" (26 студзеня 1990 г.), Пастанова Вярхоўнага Савета Беларускай ССР "Аб парадку ўвядзення ў дзеянне закона Беларускай СССР "Аб мовах у Беларускай ССР" (26 студзеня 1990 г.) і Закон "Аб дапаўненні артыкула 68 Канстытуцыі Беларускай ССР"(26 студзеня 1990 г.);

б) альбо ў бліжэйшы час прыняць новы Закон аб статусе адзінай дзяржаўнай мовы - беларускай.

Дзяржаве неабходна сістэмна і мэтанакіравана весці сярод народа глыбока прадуманую растлумачальную работу пра выключную ролю яго роднай мовы для захавання этнакультурнай ідэнтычнасці краіны, так і для абароны, умацавання яе палітычнага суверэнітэту. Народ павінен мець цвёрдае перакананне, што панаванне рускай мовы ў сучаснай Беларусі, гэта не гістарычная непазбежнасць, не добраахвотны выбар рускай мовы нашымі прашчурамі, а вынік свядомай, сістэмнай дзяржаўнай русіфікатарскай палітыкі на працягу больш, чым двух стагоддзяў, ад якой, на вялікі жаль, Прэзідэнцкая вертыкаль не адышла і па сёння.

*Прафесары*
***Леанід Лыч, Мікола Савіцкі.***
11.10.2017 г.

**Да ўвагі дэлегатаў XIII з'езду ТБМ**

З 26 ліпеня змяніўся нумар тэлефона Грамадскага аб'яднання "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны".

Новы нумар **(8017) 2638511.**



*Павел Сіяцко*

# Прозвішчы Беларусі

## *Новая серыя*

*(Працяг. Пачатак у папярэдніх нумарах.)*

534. **Капшай** (Уладзімір) - семантычны вытвор ад апелятыва *капшай* 'галаўны ўбор чувашскай жанчыны' <-тат. *korspau* (Фасм.).

535. **Каравайкава** (Ірына) - вытвор з фармантам *-ава* ад антрапоніма *Каравайка* і значэннем 'нашчадак (дачка) названай асобы': *Каравайк-ава*. ФП: *каравайка* ('птушка атрада галянастых з доўгай загнутай дзюбай, гняздуецца ў чаротавых зарасніках, на дрэвах, звычайна недалёка ад вады') - *Каравайка* (мянушка, потым прозвішча) - *Каравайкава*.

536. **Караеў** (Юрый) - вытвор з прыналежным суфіксам *-еў* ад антрапоніма *Карай* і значэннем 'нашчадак названай асобы': *Карай-эў* - *Караеў*. ФП: *кары* ('цёмна-карычневы' (пра колер вачэй)) - *карай* ('пра чалавека з карымі вачамі') - *Карай* (мянушка, потым прозвішча) - *Караеў*.

537. **Каракін** (Аляксандр) - вытвор з прыналежным суфіксам *-ін* ад антрапоніма *Карак* і значэннем 'нашчадак названай асобы': *Карак-ін*. ФП: *карак* (мн. каракі 'народнасць, якая складае асноўнае карэннае насельніцтва Камчацкай вобласці') - *Карак* (мянушка, потым прозвішча) - *Каракін*.

538. **Каралёк** (Арцём) - семантычны вытвор ад апелятыва *каралёк*, які мае розныя значэнні: 1) разм. 'кароль' невялікай манархічнай дзяржавы; 2) 'невялікая лясная птушка атрада вераб'іных з шаравата-зялёным пер'ем і аранжавым або жоўтым цемем'; 3) 'сорт апельсіна з чырвонай мякаццю'.

539. **Каралькоў** (Мікалай) - вытвор з прыналежным суфіксам *-оў* ад антрапоніма *Каралёк* і значэннем 'нашчадак названай асобы': *Каральк-оў*. ФП: *Кароль* (імя <лац. *Carolus* 'кароль') - *Кароль* (мянушка, потым прозвішча) - *Каралёк* (памянш.-ласк. ці зневаж. форма, суфікс *-ёк*) - *Каралёк* (прозвішча) - *Каралькоў*.

540. **Каранеўскі** (Алесь) - вытвор з фармантам *-еўскі* ад тапоніма *Карані* і значэннем 'народзінец, жыхар названай мясцовасці, паселішча': *Каран-еўскі*.

541. **Каранчук** (Валянцін) - вытвор з суфіксам *-чук* ад антрапоніма *Корань* і значэннем 'нашчадак названай асобы': *Корань-чук* - *Каранчук*. ФП: *корань* ('падземная частка расліны', 'пачатак, аснова чаго-небудзь') - *Корань* (мянушка, потым прозвішча) - *Каранчук*.

542. **Карасёва** (Наталля) - вытвор з фармантам *-ёва* ад антрапоніма *Карась* і значэннем 'нашчадак названай асобы': *Карас-ёва*. ФП: *карась* ('прэснаводная рыба сямейства карпавых, якая водзіцца ў вадаёмах з ілістым дном') - *Карась* (мянушка, потым прозвішча) - *Карасёва*.

543. **Карасевіч** (Ірына) - вытвор з суфіксам бацькаймення *-евіч* ад антрапоніма *Карась* і значэннем 'нашчадак (дачка) названай асобы': *Карасевіч*. ФП: *карась* ('прэснаводная рыба сямейства карпавых з чырванаватым плаўнікам, якая водзіцца ў вадаёмах з ілістым дном') - *Карась* (мянушка, потым прозвішча) - *Карасевіч* (бацькайменне) - *Карасевіч.*

544. **Каратынскі** (Вінцэсь) - вытвор з фармантам *-ынскі* ад антрапоніма *Каратай* і значэннем 'нашчадак названай асобы': *Карат (-ай)-ынскі*. ФП: *каратай* (рус. *коротай* 'кароткі кафтанчык', 'чалавек у кароткім адзенні' (Даль), цюрк. *кара* 'чорны' і *тай* 'жарабя' (Фасм.)) - *Каратай* (мянушка), *Каратай* (прозвішча) - *Каратынскі*.

545. **Карачун** (Андрэй) - семантычны вытвор ад апелятыва *карачун* (рэг.) 'курч, сутарага'; 'нядобры дух, які скарачае жыццё' (Нас.), 'канец, смерць, пагібель' (Даль).

546. **Каржанеўская** (Паліна) - вытвор з фармантам *-еўская* ад тапоніма *Каржаны* і значэннем 'народзінка, жыхарка названай мясцовасці, паселішча': *Каржан-еўская*. ФП: *каржан* ('кажан (лятучая мыш)', 'спрытны чалавек', 'чалавек малога росту (ЭСБМ)') - *Каржан* (мянушка, потым прозвішча) - *Каржаны* (тапонім) - *Каржанеўская*.

547. **Каржова** (Таццяна) - вытвор з фармантам *-ова* ад антрапоніма *Корж* і значэннем 'нашчадак названай асобы': *Корж-ава* - *Каржова.* ФП: *Корж* ('прэснае сухое печыва з мукі; праснак') - *Корж* (мянушка) - *Корж* (прозвішча) - *Каржова.*

548. **Карзунова** (Валянціна) - вытвор з фармантам *-ова* ад антрапоніма *Корзун* і значэннем 'нашчадак названай асобы': *Корзун-ова* - *Карзунова.* ФП: *карзун / корзун* ('без пярэдніх зубоў, шчарбаты' (Даль). - *Карзун / Корзун* (мянушка, потым прозвішча) - *Корзунава / Карзунова.*

549. **Кармунін** (Павел) - вытвор з прыналежным суфіксам *-ін* ад антрапоніма *Кармуня* і значэннем 'нашчадак названай асобы': *Кармунін.* ФП: *карма* ('задняя частка судна, процілеглая носу', 'пра заднюю частку танка, самалёта', 'задняя частка рыбалоўнай снасці (невада, жака і пад.) у выглядзе вузкага доўгага мяшка, куды пападае рыба пры лоўлі') - *Карма* (мянушка, потым прозвішча) - *Кармуня* (экспрэс. ад *Карма*, фармант *-уня*) - *Кармуня* (мянушка, потым прозвішча) - *Кармунін*.

550. **Карнатка** (Таццяна) - семантычны вытвор ад апелятыва *карнатка* 'падрэзанка, падкарочаная вопратка' (ад *карнаць* 'адразаць, рабіць кароткім' (рэг.); параўн. *карноткі* 'кароткі' (СНМЗ)).

551. **Карнаухава** (Ірына) - вытвор з фармантам *-ава* ад антрапоніма *Карнаух* і значэннем 'нашчадак названай асобы': *Карнаух-ава*. ФП: *карнавухі* ('з абрэзаным або пакалечаным вухам') - *карнавух* ('пра чалавека з такім вухам') - *Карнавух* (мянушка, потым прозвішча) - *Карнавухава* - *Карнаухава* (без прыстаўнога ***в*** для абмежавання ад апелятыва, як і *Астраух*).

552. **Карнач** (Іван) - семантычны вытвор ад апелятыва *карнач* - дэрывата (рэг.) з суфіксам *-ач* ад прыметніка *карноткі* 'нядоўгі', скарочаны, адцяты - (П. Сіяцко. Слоўнік народнай мовы Зэльвеншчыны) - 'нож з адламаным лязом'; 'невысокі ростам чалавек' - *Карнач* (мянушка) - *Карнач*.

553. **Карнееў** (Алег) - вытвор з прыналежным суфіксам *-еў* ад антрапоніма *Карней* і значэннем 'нашчадак названай асобы': *Карней-еў*. ФП: *Карней* (імя, <лац. *corn* 'рог') - *Карней* (мянушка, потым прозвішча) - *Карнееў*.

554. **Карнілаў** (Аляксей) - вытвор з прыналежным суфіксам *-аў* ад антрапоніма *Карніл* і значэннем 'нашчадак названай асобы': *Карніл-аў*. ФП: *Карніл* (імя, з мовы грэкаў *Kornelios* <лац. *Cornelius* - рымскае радавое імя <*corny* 'рог') - *Карніл* (празванне, потым прозвішча) - *Карнілаў*.

555. **Каробчыц** (Раман) - другасная форма, першасная *Каробчыч* - вытвор з суфіксам бацькаймення *-ыч* і значэннем 'нашчадак названай асобы': *Каробч(к/ч)-ыч*. ФП: *каробка* ('невялікая скрынка (з кардону, дрэва, пластмасы і пад., а таксама (спец.) такая ж скрынка з якім-н. таварам, наборам якіх-н. прадметаў)') - *Каробка* (мянушка) - *Каробка* (прозвішча) - *Каробчыч* - *Каробчыц* - (вынік дысіміляцыі: *чч-чц*). У форме мн. л. стала тапонімам *Каробчыцы* (турыстычны аб'ект Гродзенскага раёна).

556. **Кароўкіна** (Анастасія) - вытвор з фармантам *-іна* ад антрапоніма *Кароўка* і значэннем 'нашчадак (дачка) названай асобы': *Кароўк-іна*. ФП: *кароўка* (памян.-ласк. ад *карова* (фармант *-ка*) 'свойская малочная жывёліна, самка быка') - *Кароўка* (мянушка, потым прозвішча) - *Кароўкіна*.

557. **Карпачоў** (Віталь) - вытвор з прыналежным суфіксам *-оў* ад антрапоніма *Карпач* і значэннем 'нашчадак названай асобы': *Карпач-оў*. ФП: *карпач* ('лянівы работнік, маруда' (Нас.) - ад *корпацца* 'рабіць што-н. марудна': *карп-ач*) - *Карпач* (мянушка, потым прозвішча) - *Карпачоў*.

558. **Карпіцкая** (Марына) - вытвор з фармантам *-ская (>цкая)* ад тапоніма *Карпікі* і значэннем 'жыхарка мясціны, названай утваральным словам': *Карпік-ская > Карпіцкая.* ФП: *Карп* (імя, з мовы грэкаў з значэннем 'плод') - *Карпік* ('сын, нашчадак *Карпа*', фармант *-ік*) - *Карпікі* ('мясціна з прозвішчамі *Карпік*') - *Карпіцкая*.

559. **Карпюк** (Аляксей) - вытвор з суфіксам *-юк* ад антрапоніма *Карп* і значэннем 'нашчадак названай асобы': *Карп-юк*. ФП: *Карп* (імя) - *Карпюк* (прозвішча). Або *карп* ('рыба') - *Карп* (мянушка) - *Карп* (пам.-ласк. форма) - *Карпюк*.

560. **Каршакевіч** (Аляксандр) - вытвор з суфіксам бацькаймення *-евіч* ад антрапоніма *Коршак* і значэннем 'нашчадак названай асобы': *Коршак-евіч* - *Каршакевіч*. ФП: *коршак* і *каршак* ('тое, што і ястраб' - птушка (драпежная) з кароткай кручкаватай дзюбай і доўгімі вострымі кіпцюрамі') - *Коршак / Каршак* (мянушка, потым прозвішча) - *Каршакевіч*.

561. **Карызна** (Валянцін) - відаць, другасная форма, першасная *Вкоризна* - семантычны вытвор ад апелятыва *вкоризна* 'дакор' (Падручны гістарычны слоўнік субстантыўнай лексікі, Мінск, 2013). Пачатковае ***"в"*** пры збегу зычных нярэдка адпадае (*Ладзімір* (<*Уладзімір*)), *кроп* (<*укроп*) і пад.

562. **Карэтнікава** (Вера) - вытвор з фармантам *-ава* ад антрапоніма *Карэтнік* і значэннем 'нашчадак (дачка) названай асобы': *Карэтнік-ава*. ФП: *карэтнік* ('той, хто вырабляў карэты', 'той, хто кіраваў карэтай у час язды') - *Карэтнік* (мянушка, потым прозвішча) - *Карэтнікава*.

563. **Карэўскі** (Аляксандр) - вытвор з фармантам *-скі* ад тапоніма *Карэва* і значэннем 'народзінец, жыхар названай мясцовасці, паселішча': *Карэў-скі*.

564. **Касаткіна** (Фаіна) - вытвор з фармантам *-іна* ад антрапоніма *Касатка* і значэннем 'нашчадак названай асобы': *Касатк-іна*. ФП: *касатка* ('народная назва ластаўкі', а таксама 'буйная драпежная млекакормная жывёліна сямейства дэльфінавых, падобная на кіта') - *Касатка* (мянушка, потым прозвішча) - *Касаткіна*.

565. **Касінская** (Вера) - вытвор з фармантам *-ская* ад тапоніма *Косіна* і значэннем 'народзінка, жыхарка названай мясцовасці, паселішча': *Косін-ская* - *Касінская*.

566. **Касоўскі** (Герасім) - вытвор з фармантам *-скі* ад тапоніма *Косава* і значэннем 'народзінец, жыхар названай мясцовасці, паселішча': *Косаў-скі* - *Касоў-скі*.

567. **Каспяровіч** (Андрэй) - вытвор з суфіксам бацькаймення *-овіч* ад антрапоніма *Каспер* і значэннем 'нашчадак названай асобы': *Каспер-овіч* - *Каспяровіч*. ФП: *Каспер* (імя, з мовы грэкаў 'майстар, настаўнік') - *Каспер* (прозвішча) - *Касперавіч* - *Каспяровіч.*

568. **Касцевіч** (Ірына) - вытвор з суфіксам бацькаймення *-евіч* ад антрапоніма *Косця* і значэннем 'нашчадак названай асобы': *Косц-евіч* - *Касц-евіч*. ФП: *Канстанцін* (імя -лац. *Constantinus - constans* 'стойкі, пастаянны') - *Косця* (народна-гутарк. форма) - *Косця* (празванне, потым прозвішча) - *Касцевіч*.

569. **Касцяхіна** (Галіна) - вытвор з фармантам *-іна* ад антрапоніма *Касцяха* і значэннем 'нашчадак названай асобы': *Касцях-іна*. ФП: *Кастанцін* (імя <лац. *Constantinus - constans* 'стойкі, пастаянны, сталы') - *Косця* (народная форма з 1556: *Костя*) - *Касцяха* (экспрэс. форма) - *Касцяха* (мянушка, потым прозвішча) - *Касцяхіна* (белар. нармат. *Касцюшына* (***х/ш***)).

570. **Касыгін** (Мікалай) - вытвор з прыналежным суфіксам *-ін* ад антрапоніма *Касыга* і значэннем 'нашчадак названай асобы': *Касыг-ін*. ФП: *касыга* ('касабокі' (чалавек, заяц)) - *Касыга* (мянушка) - *Касыга* (прозвішча) - *Касыгін*.

571. **Касько** (Алёна) - народна-гутарковая форма (з фіналлю *-ко*) ад *Касьян* (імя <лац. 'які належыць Касію') набыла ролю прозвішча.

572. **Касьянка** (Расціслаў, Лідзія) - вытвор з фармантам *-ка* ад антрапоніма *Касьян* і значэннем 'жонка, дачка названай асобы': *Касьян-ка*. ФП: *Касьян* (імя з лацінскай мовы - 'які належыць Касію') - *Касьян* (прозвішча) - *Касьянка*.

573. **Касянкова** (Соф'я) - вытвор з фармантам *-ова* ад антраніма *Касянок* і значэннем 'нашчадак (дачка) названай асобы': *Касянк-ова*. ФП: *Касьян* (імя <лац. 'які належыць Касію') - *Касян* (гутар. форма) - *Касян* (прозвішча) - *Касянок* ('нашчадак Касяна', -суф. *-ок*) - *Касянок* (прозвішча) - *Касянкова.*

574. **Касячонкаў** (Андрэй) - вытвор з прыналежным суфіксам *-аў* ад антрапоніма *Касячонак* і значэннем 'нашчадак названай асобы': *Касячонкаў*. ФП: *касяк* ('гурт жывёл, чарада') - *Касяк* (мянушка, потым прозвішча) - *Касячонак* (нашчадак *Касяка*, суфікс *-онак*) - *Касячонкаў*.

575. **Каткавец** (Васіль) - вытвор з суфіксам *-ец* ад 1) тапоніма *Коткава* і значэннем 'народзінец, жыхар названай мясцовасці, паселішча': *Каткав-ец*; 2) антрапоніма *Коткавы* і значэннем 'нашчадак названай асобы': *Коткавец* - *Каткавец*. ФП: *котка* ('самка ката, фармант *-ка*'; 'кошка') - *Котка* (мянушка, потым прозвішча) - *Коткавы* ('нашчадак Коткі', фармант *-авы*) - *Коткава* (тапонім - 'Коткава ўладанне') - *Каткавец*.

576. **Катлінскі** (Казімір) - вытвор з фармантам *-скі* ад тапоніма *Катлы* і значэннем 'народзінец, жыхар названай мясцовасці, паселішча': *Катл-інскі*.

577. **Каўзунова** (Вольга) - вытвор з фармантам *-ова* ад антрапоніма *Каўзун* і значэннем 'нашчадак названай асобы': *Каўзун-ова.* ФП: *каўзун* ('дзіця, якое лазіць, коўзаецца на каленях' (Нас.), 'паўзун, малое дзіця' (Грынч.)) - *Каўзун* (мянушка, потым прозвішча) - *Каўзунова*.

578. **Каўтунова** (Марыя) - вытвор з фармантам *-ова* ад антрапоніма *Каўтун* і значэннем 'нашчадак (дачка) названай асобы': *Каўтун-ова.* ФП: *каўтун* ('хвароба скуры на галаве, пры якой валасы зблытваюцца і зліпаюцца'; а таксама 'пра чалавека, які голасна каўтае (пра пітво, ежу)') - *Каўтун* (мянушка) - *Каўтун* (прозвішча) - *Каўтунова*.

579. **Кахавец** (Алег) - вытвор з суфіксам *-ец* ад тапоніма *Кахова* і значэннем 'народзінец, жыхар названай мясцовасці, паселішча', *Каховец* - *Кахавец.*

580. **Кахоўская** (Антаніна) - вытвор з фармантам *-ская* ад тапоніма *Кахова* і значэннем 'народзінка, жыхарка названай мясцовасці, паселішча': *Кохаў-ская* - *Кахоўская*.

581. **Качалава** (Галіна) - вытвор з фармантам *-ава* ад антрапоніма *Качала* і значэннем 'нашчадак названай асобы': *Качал-ава*. ФП: *качала* (рэг.) ('крэсла на падстаўках, на якіх яно качаецца') - *Качала* (мянушка, потым прозвішча) - *Качалава*.

582. **Качан** (Аляксандр) - семантычны вытвор ад апелятыва *качан* 'плод капусты: шчыльна звітыя ў галоўку капусныя лісты'.

583. **Качэня** (Марыя) - вытвор з фармантам *-эня* ад антрапоніма *Кача* і значэннем 'нашчадак названай асобы': *Кач-эня*. ФП: *кача* (рэг. 'качка') - *Кача* (мянушка) - *Кача* (прозвішча) - *Качэня*. Або ад апелятыва (рэг.) *качэня* (качаня) 'дзіцяня качкі', якое набыло ролю празвання і стала перадавацца па спадчыне як прозвішча.

584. **Кашпіроўскі** (Анатоль) - вытвор з фармантам *-скі* ад тапоніма *Кашпіроўка* і значэннем 'народзінец, жыхар названай мясцовасці, паселішча': *Кашпіроў-скі.* ФП: *Каспер* (імя <санскр. 'майстар, настаўнік') - *Кашпар / Кашпер* (гут. формы) - *Кашпер / Кашпір* (мянушка, потым прозвішча) - *Кашпіроўка* (мясцовасць з прозвішчамі *Кашпір*) - *Кашпіроўскі*.

585. **Кашэўскі** (Яўген) - вытвор з фармантам *-эўскі* ад тапоніма *Кашы* і значэннем 'народзінец, жыхар названай мясцовасці, паселішча': *Кашэўскі.* Або вытвор ад антрапоніма *Кош* і значэннем 'нашчадак названай асобы': *Кош-эўскі* - *Кашэўскі.* Ці прэстыжная форма ад *Кош* і значэннем 'вяльможнасці, шляхетнасці'.

586. **Каяч** (Алёна) - семантычны вытвор ад апелятыва *каяч* 'спавядальнік, які раскайваецца ў сваіх грахах, памылках' (*кай-ач*).

587. **Квяткоўскі** (Анатоль) - вытвор з фармантам *-оўскі* ад тапоніма *Кветкі* і значэннем 'народзінец, жыхар названай мясціны, паселішча': *Кветк-оўскі* - *Квяткоўскі*. Або шляхетная форма з фармантам *-оўскі* ад прозвішча *Кветка*: *Квяткоўскі*. Часцей сярод католікаў, што валодаюць польскай мовай (*квят* 'кветка' - *Квяткоўскі*).

588. **Кеда** (Альжбета, Людміла) - семантычны вытвор ад апелятыва *кеда* (фінск. *kedon* 'травяністая глеба (Фасм.)'). Або трансфармаванае ў форму назоўніка польск. *kiedy* 'калі'. Параўн. *кедысь* прысл. *калісь* (СБГПЗБП). Або (гл. ніжэй). Другасная форма, першасная *Геда*, выбуховы [*г*] у старабеларускай мове перадаваўся дыграфам *кг*; улічваючы першую графему *к*, пазней замест *Геда* сталі пісаць *Кеда*. Слова *геда* ад літоўскага *gedis* `сарамлівы`. *Кеда* - семантычны дэрыват ад апелятыва *кеда* `сарамлівая`.

*(Працяг у наст. нумары.)*

# У Лідзе будзе помнік вялікаму князю Гедыміну

ЗАЦВЕРДЖАНА
Рашэнне
Лідскага раённага
выканаўчага камітэта
2 кастрычніка 2017 г. № 1012

**ПАЛАЖЭННЕ**
**пра парадак арганізацыі і правядзення адкрытага конкурсу эскізных праектаў помніка "Заснавальнік замка - князь Гедымін"**

1. Мэтай конкурсу з'яўляецца пошук найболей выразнай выявы князя Гедыміна для стварэння помніка "Заснавальнік замка - князь Гедымін".

2. Арганізатарам конкурсу з'яўляецца Лідскі раённы выканаўчы камітэт.

3. Удзельнікамі конкурсу могуць быць скульптары і архітэктары, якія маюць прафесійную адукацыю. Удзельнікам конкурсу можа быць як адзін чалавек, так і творчы калектыў.

4. Конкурсныя матэрыялы павінны быць прадстаўлены ў адпаведнасці з пунктам 14 Палажэння аб парадку стварэння (рэканструкцыі) і прыёмкі твораў манументальнага і манументальна-дэкаратыўнага мастацтва на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь, зацверджанага пастановай Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 19 верасня 2008 г. № 1372.

5. Кампазіцыйнае і пластычнае рашэнне помніка павінна быць вытрымана ў найлепшых традыцыях класічнага нацыянальнага манументальнага мастацтва.

6. Помнік павінен быць усталяваны ў скверы на скрыжаванні вуліц Грунвальдская і Замкавая ў г. Ліда, каля паўночнай сцяны Лідскага замка.

7. Каардынатарам правядзення конкурсу па даручэнні яго арганізатара выступае аддзел ідэалагічнай працы, культуры і па справах моладзі Лідскага раённага выканаўчага камітэта.

8. Для прыняцця ўдзелу ў конкурсе ў тэрмін да 15 лістапада 2017 г. улучна падаецца заяўка па форме паводле дадатку да гэтага Палажэння па адрасе: г. Ліда, вул. Савецкая, 8, 231300, тэл./факс +375 154 52-77-45, lidakult@mail.ru.

Конкурсныя матэрыялы павінны быць прадстаўлены ўдзельнікамі конкурсу 15 студзеня 2018 г. не пазней 17:00 па адрасе: г. Ліда, вул.Савецкая, 8, каб. 62, кантактны тэлефон +375 154 52-77-45, аддзел ідэалагічнай працы, культуры і па справах моладзі Лідскага райвыканкама.

9. З мэтай захавання ананімнасці конкурсныя матэрыялы падаюцца пад чатырохзнакавым нумарам, які паказваецца на ўсіх матэрыялах у левым верхнім куце, а таксама ў аўтарскім канверце.

У запячатаны канверт удзельніка конкурсу ўкладваецца інфармацыйны ліст, які ўтрымоўвае прозвішча, імя і імя па бацьку (калі такое маецца), таксама адрас і кантактны тэлефон удзельніка ці калектыва ўдзельнікаў конкурсу.



*Вялікі князь Гедымін. Эскіз Рычарда Грушы*

Пры парушэнні ўмоў конкурсу і правіл афармлення і падачы конкурсных матэрыялаў праект не разглядаецца.

10. Конкурсныя матэрыялы разглядаюцца журы не пазней 15 лютага 2018 г.

Склад журы зацвярджаецца рашэннем Лідскага раённага выканаўчага камітэта. Чальцы журы не ўдзельнічаюць у конкурсе і не даюць кансультацыі па конкурсных праектах.

11. Рашэнне журы прымаецца ў прысутнасці не меней паловы складу журы адкрытым галасаваннем простай большасцю галасоў прысутных. Пры роўнай колькасці галасоў "за" ці "супраць" голас старшыні журы з'яўляецца вырашальным. Рашэнне журы афармляецца пратаколам, які падпісваецца ўсімі чальцамі журы, якія прынялі ўдзел у галасаванні.

12. Крытэры адзнакі эскізных праектаў:
адпаведнасць умовам конкурсу;
высокі прафесійны ўзровень;
выкарыстанне арыгінальнага рашэння;
адлюстраванне найболей выразнай выявы.

13. Канверты ўдзельнікаў конкурсу распячатваюцца пасля вынясення рашэння журы па выніках конкурсу.

14. Рашэннем журы вызначаецца эскізны праект, які заняў 1-е месца, і пераможца (аўтар гэтага эскізнага праекту).

15. Вынікі конкурсу публікуюцца ў тыднёвы тэрмін пасля вынясення рашэння журы на афіцыйным сайце Лідскага раённага выканаўчага камітэта.

16. Пераможца конкурсу атрымлівае права на стварэнне помніка ў адпаведнасці з заканадаўствам.

17. Паштовыя і іншыя выдаткі ўдзельнікаў конкурсу аплачваюцца за іх кошт.

18. Пасля завяршэння працы журы конкурсныя матэрыялы вяртаюцца ўдзельнікам конкурсу.

*ДАДАТАК*
*да Палажэння пра парадак арганізацыі і правядзення адкрытага конкурсу эскізных праектаў помніка "Заснавальнік замка - князь Гедымін"*

Аддзел ідэалагічнай працы,
культуры і па справах моладзі
Лідскага райвыканкама

____________________________________
Прозвішча, імя, імя па бацьку (калі такое маецца )
____________________________________
____________________________________
тэлефон

ЗАЯЎКА
на ўдзел у конкурсе

Прашу ўключыць мяне ў спіс удзельнікаў конкурсу эскізных праектаў помніка "Заснавальнік замка - князь Гедымін" у г. Ліда.

Абавязваюся прадставіць конкурсныя матэрыялы 15 студзеня 2018 г. не пазней 17:00 па адрасе: г. Ліда, вул. Савецкая, 8, каб. 62, аддзел ідэалагічнай працы, культуры і па справах моладзі Лідскага райвыканкама.

З умовамі конкурсу азнаёмлены і згодны.

______________ ______________ ______________
Ініцыялы, прозвішча подпіс дата

## Гамельчукі сустрэліся са Зміцерам Бартосікам

У Цэнтры беларускай мовы ў Гомелі прайшла падзея дыялог-клуба "Міжрэчча", дзе госцем выступіў беларускі пісьменнік і бард Зміцер Бартосік з тэмай "Трыумф і трагедыя чалавека ў XX стагоддзі".



Аўтар прэзентаваў сваю другую кнігу "Быў у пана верабейка гаварушчы", праспяваў песні, распавядаў пра свае вандроўкі па свеце.

Наведвальнікі закранулі тэму Другой сусветнай вайны, разважалі, што такое дабро і зло, спрачаліся, чаму застаюцца імёны забітых, але не забойцаў, і чаму гісторыя пішаца пераможцам.

- Сустрэча пакінула адчуванне, што мы сустрэліся са сваім чалавекам і адчулі яго, - дзяліліся наведвальнікі сустрэчы.

*Радыё Рацыя.*





# Віншуем сяброў ТБМ, якія нарадзіліся ў лістападзе

Абрагімовіч Марына Яўген.
Аліхвер Людміла Ўладзіслав.
Амінава Святлана
Андрэева Галіна Андрэеўна
Андрэйкавец Надзея Дмітр.
Анціфораў Алег Мікалаевіч
Анцыповіч Максім Рыгоравіч
Асецкі Аркадзь
Асмакоўская Алена
Атрахімовіч Іосіф Канстанцін.
Бабак Вольга
Бабкова Ганна Ігараўна
Баранаў Аляксандр Георгіевіч
Бародка Зміцер Міхайлавіч
Бартасевіч Людміла
Баўтовіч Міхась
Бахвалаў Дзмітры
Белакоз Вера
Борын Алег Мікалаевіч
Булаш Алена
Бусько Сафія Раманаўна
Бухавец Пятро Пятровіч
Беляўская Таццяна
Быцкевіч Сяргей Аляксандр.
Ваданосава Фаіна Аляксандр.
Васько Віктар Вячаслававіч
Ветчынаў Сяргей
Вікторчык Ніна Сяргееўна
Віценя Алег Аляксандравіч
Вішнеўскі Павел Уладзімір.
Волкаў Алег
Вярцінскі Анатоль Ільіч
Галяшоў Зміцер
Ганцэвіч Вольга Мечыслав.
Ганчарова Таццяна
Гаргун Леанід Ігаравіч
Гарлуковіч Яўген Дзмітрыевіч
Гівоіна Вольга Міхайлаўна
Главацкіх Васіль Б.
Глухава Святлана Пятроўна
Гнедчык Алег
Горбач Аляксандр Клаўдзіевіч
Груша Дар'я Ўладзіміраўна
Грыб Ян Янавіч
Грыгаровіч Андрэй Анатол.
Губарэвіч Віктар Дзмітрыевіч
Губчык Яўген Іванавіч
Гур'ян Алена Барысаўна
Гучок Яўген Сяргеевіч
Дабравольскі Аляксандр Ал.
Давыдзька Святлана
Данішэвіч Вольга Вячаслав.
Даўлюд Наталля Мікалаеўна
Дацэнка Аляксандр Кірылавіч
Дзербянёва Анжаліка
Дзіцэвіч Людміла Мікалаеўна
Дзядзюля Вера
Длатоўская Аліна Аляксандр.
Домаш Валянціна Іосіфаўна
Досіна Алена
Доўнар Аляксандр Андрэевіч
Драгун Данута
Драздовіч Алена Станіслав.
Дрыга Святлана Мікалаеўна
Дубко Ганна Міхайлаўна
Дубовік Іна Пятроўна
Дуброў Алег Анатольевіч
Ермакова Аляксандра Мікал.
Есьман Рыгор Міхайлавіч
Еўсіевіч Наталля Анатольеўна
Ефіменка Ганна Сяргееўна
Жлановіч Міхаіл Васільевіч
Зайкоўскі Эдвард Міхайлавіч
Зарэцкая Вера Якаўлеўна
Здановіч Уладзімір Васільевіч
Зуева Галіна Паўлаўна
Ігнатчык Андрэй Валер'евіч
Іокша Марыя Мікалаеўна
Кавалёва Алена Пятроўна
Кавалёў Аляксей Аляксандр.
Кавальчук Караліна
Кадыш Любоў
Кажамякін Генадзь Вячаслав.
Казакоў Алесь
Казачонак Сяргей
Казлоўскі Руслан Канстанцін.
Калатоўкіна Ларыса Анатол.
Калчанаў Алег Аляксеевіч
Капойка Ўладзімір
Карповіч Ірына Іванаўна
Касцюк Таццяна Ўладзімір.
Касцян Альгерд Дзянісавіч
Кацяшоў Дзмітрый Сяргеевіч
Кіеня Ўладзімір Уладзіміравіч
Кірэева Алена Ўладзіміраўна
Клікун Таццяна
Козел Валеры
Козел Галіна Маркаўна
Корнеў Алесь Касьянавіч
Кошкіна Людміла Чаславаўна
Круглік Уладзімір Анатол.
Крук Валянціна Іосіфаўна
Крыжаноўская Вольга Аляк.
Кудзёлка Генадзь Міхайлавіч
Кудлацкая Валянціна
Кужанава Вольга
Кузьма Аляксандр
Кузьміч Мікалай Пятровіч
Кулакевіч Сяргей Адамавіч
Купрэева Таццяна Уладзімір.
Курніцкая Яна Іванаўна
Кучынская Галіна
Лапіцкая Святлана
Лапкоўская Баніслава Міх.
Левіт Зміцер
Лепяцюхіна Ганна
Лісіцкая Вольга Мікалаеўна
Лісіцын Генадзь Дзямьянавіч
Літоўчык Святлана Міхайл.
Лойка Алег Паўлавіч
Лойка Ніна Сцяпанаўна
Лось Дзіяна Іванаўна
Лубянава Таццяна Віктараўна
Лысова Таіса
Ляшук Валерыя
Мазур Тамара Міхайлаўна
Макарэвіч Наталля Міхайл.
Маковіч Дзіна
Маліноўская Марфа Яўген.
Маліноўскі Віктар Леанідавіч
Мараўскі Фелікс Дамінікавіч
Марговіч Антон Антонавіч
Мароз Жана Мікалаеўна
Марозава Святлана Валянцін.
Мацкоўская Наталля Васіл.
Мацюкевіч Паўлюк Іванавіч
Мельнік Міхась Іванавіч
Мельнікаў Аляксандр
Мельнікаў Андрэй Міхайлав.
Мельнікаў Юры Сяргеевіч
Меляшкевіч Юры Віктаравіч
Міжурына Раіса Канстанцін.
Мілаш Леакадзія
Мілюць Анатоль Іванавіч
Міхалевіч Мілана Міхайлаўна
Міцкевіч Андрэй Мікалаевіч
Моніч Зміцер
Мухіна Леанарда Станіслав.
Нагін Павел Пятровіч
Несцераў Аляксей
Нікалаевіч (Палонка) Вольга
Нікіціна Ліля
Нікіціна Людміла Канстанцін.
Пагрэбіцкі Алег
Падасетнікаў Васіль
Паляшчук Таццяна
Панюціч Аляксандр
Паражынскі Аляксандр
Паросава Марына
Пашкевіч Валеры Васільевіч
Пракаповіч Мікалай Мікал.
Пракопчык Марына Міхайл.
Прахарэнка Кацярына Валянц.
Прыбыш Павел Іванавіч
Пугаўка Алена
Пугачэўскі Аляксандр Віктар.
Пыльчанка Яўген Аляксанд.
Пячкова Яўгенія Якаўлеўна
Рабушко Анастасія Віктараўна
Радзівон Ірына
Радкоў Генадзь Андрэевіч
Радына Данута Аляксандраўна
Ражко Ірына Францаўна
Ралько Леанід Міхайлавіч
Раманюк Наталля
Розумаў Анатоль Якаўлевіч
Русецкі Марцін Ігаравіч
Руткоўская Яўгенія Карпаўна
Рыжыкаў Міхаіл
Рэзнікава Настасся Ўладзімір.
Сабалеўскі Ўладзіслаў Уладзім.
Савіцкая Яніна Іосіфаўна
Савіч Аляксандр Аляксандр.
Салей Алена Міхайлаўна
Салей Ларыса Іванаўна
Сарнацкі Ігар
Севасцюк Марына Леанідаўна
Севасцян Павел
Сергіевіч Дзмітры
Сімакова Рэгіна Іосіфаўна
Сінкевіч Мікалай Сцяпанавіч
Сітнікаў Арцём Сяргеевіч
Скок Віктар Уладзіміравіч
Скрыпнічэнка Георгі Сярг.
Скуратовіч Аркадзь
Слабадзін Аляксандр Юр'евіч
Смаргун Валянцін Васільевіч
Сойка Мікалай Уладзіміравіч
Солтан Алена Антонаўна
Сталярова Вера
Станкевіч Ларыса Фёдараўна
Стасевіч Яўгенія Валер'еўна
Стасюкевіч Дзіна
Сурко Анатоль
Сцепулёнак Эма Антонаўна
Сцямпкоўская Хрысціна
Тарасава Святлана Міхайлаўна
Таўгень Антон
Тозік Эдуард
Трафімец Ульяна Святаслав.
Трафімчык Алена Веніямін.
Турцэвіч Паліна Віктараўна
Тыгрыцкая Вольга Аляксанд.
Тычына Зміцер Валянцінавіч
Тышко Іван Іванавіч
Уласава Дар'я
Уласевіч Дар'я
Федаровіч Кацярына
Федаровіч Надзея
Фралоў Аляксей Валер'евіч
Фядзюшын Ягор Ягоравіч
Хамінскі Міхась Аляксандр.
Хвошч Галіна
Хляба Глеб Ігаравіч
Царкоў Мікалай Прохаравіч
Цвік Валер Іосіфавіч
Цвяткова Алена Мікалаеўна
Цехановіч Святлана
Цімахович Аляксандра Іван.
Цярэшчанка Ігар Барысавіч
Чарнаморцаў Валер
Чаховіч Г. Г.
Чашун Уладзімір
Чыж Уладзіслаў Аляксандр.
Шнітоўскі Міхась
Шпак-Рытскі Юрась
Шутава Вольга Вікенцьеўна
Шчурко Галіна Аляксандр.
Шчурко Лідзія Іванаўна
Шчэрбін Іван Аляксеевіч
Шыла Іван Уладзіміравіч
Шыманчык Святлана Мікал.
Шымкус Рычард Эдуардавіч
Ючкавіч Аксана Станіславаўна
Якаўцава Людміла Ўладзімір.
Ялугін Эрнест Васільевіч
Яніцкі Міхаіл Іванавіч
Яскевіч Аляксей Юр'евіч

*Навіны Германіі*

## Экспазіцыя Беларусі ў Франкфурце прысвечана 500-годдзю кнігадрукавання




Нацыянальная экспазіцыя "Кнігі Рэспублікі Беларусь" на 69-м Франкфурцкім кніжным кірмашы прысвечана 500-годдзю беларускага кнігадрукавання. На стэндзе Беларусі прадстаўлены прысвечаныя Францішку Скарыну і знакавай юбілейнай даце выданні, якія выйшлі ў дзяржаўных выдавецтвах "Мастацкая літаратура", "Беларуская Энцыклапедыя імя П. Броўкі", "Беларусь", Выдавецкі дом "Звязда", "Народная асвета". Усяго ў экспазіцыі прадстаўлена каля 1 тыс. кніг 2016-2017 гадоў выпуску рознай тэматычнай накіраванасці. Буйнейшы ў свеце Франкфурцкі кніжны кірмаш (Frankfurter Buchmesse) у бягучым годзе адкрыўся 11 кастрычніка. Гэта з'езд прафесіяналаў, месца, дзе можна азнаёміцца з навінкамі, даведацца пра тэндэнцыі кнігавыдавецкага рынку ў цэлым. Па традыцыі, на форуме адна з краін прысутнічае ў якасці ганаровага госця. У 2017 годзе ім стала Францыя. Штогод у кірмашы ў Франкфурце-на-Майне прымаюць удзел больш як 7 тыс. экспанентаў са 100 краін, яго наведваюць каля 300 тыс. чалавек, акрэдытавана больш за 10 тыс. журналістаў і блогераў.

*blr.belta.by.*
*Фота Міністэрства інфармацыі.*



**Грамадскае аб'яднанне**
**"Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны"**
*220034, г. Мінск вул. Румянцава, 13, тэл. 284-85-11, разліковы рахунак*
*№ 3015741233011 у Аддзяленні па Мінску і Мінскай вобласці №539 ААТ Белінвестбанк", г. Мінска, код 739*

**6 кастрычніка 2017 г. № 97**

Н. І. Качанавай,
Кіраўніку Адміністрацыі
Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь,
вул. Карла Маркса, 38
Мінск, 220016

Аб ушанаванні памяці
Францыска Скарыны

**Паважаная Наталля Іванаўна!**

У гэтым годзе ўся Беларусь святкуе 500-годдзе беларускага кнігадрукавання, якое распачаў знакаміты Францыск Скарына. Таму невыпадкова, што ў 1990 г. у СССР была выдадзена манета ў яго гонар, а ў Мінску праспект Леніна пачаў насіць назву першага беларускага кнігадрукара.

У гэтым годзе беларуская інтэлігенцыя пісьмова звярталася да Кіраўніка нашай дзяржавы з прапановай надаць імя Францыска Скарыны Нацыянальнаму аэрапорту або Нацыянальнай бібліятэцы. На жаль, гэтыя прапановы не атрымалі падтрымкі. Але 2017 год яшчэ не скончыўся, і Прэзідэнцкі ўказ аб дадатковым ушанаванні памяці знакамітага на ўвесь свет беларуса прыняць можна. Такі ўказ знойдзе шырокую падтрымку нашага народа і падыме міжнародны прэстыж Беларусі.

З павагай,
старшыня ТБМ А. Трусаў.



**Грамадскае аб'яднанне**
**"Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны"**
*220034, г. Мінск вул. Румянцава, 13, тэл. 263-85-11, разліковы рахунак*
*№ BY84BLBB30150100129705001001 у Аддзяленні па Мінску і Мінскай вобласці №539 ААТ Белінвестбанк", г. Мінска, код BLBBBY2X*

**10 кастрычніка 2017 г. №101**

Кіраўніку Адміністрацыі
Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь
Качанавай Н. І.,
вул. К. Маркса,38,
220016, г. Мінск

Аб ушанаванні памяці Зоські Верас

**Шаноўная Наталля Іванаўна!**

30 верасня 2017 г. споўнілася 125 гадоў з дня нараджэння Зоські Верас (Людвікі Сівіцкай-Войцік) знакамітай дзеячкі беларускага адраджэння, якая пражыла доўгае і цікавае жыццё, добрай знаёмай Максіма Багдановіча.

Нажаль, у нашай краіне не звярнулі належнай увагі на юбілей Зоські Верас. Але яшчэ не позна зрабіць у гэтым годзе пэўныя дзеянні.

Мы прапануем:

1) выдаць мастацкі канверт з выявай Зоські Верас;

2) надаць імя Зоські Верас адной з бібліятэк у г. Мінску і г. Гродна, дзе яна ў свой час актыўна працавала;

3) назваць у яе гонар адну з вуліц у вышэйзгаданых гарадах Беларусі.

Мы спадзяёмся на Вашае разуменне гэтага пытання і падтрымку.

З павагай,
старшыня ТБМ Алег Трусаў.





*Алег Трусаў*

# Гісторыя сярэднявечнай Еўропы (V - XV стагоддзі)

*(Працяг. Пачатак у папярэдніх нумарах.)*

У XIV ст. змаганне паміж цверскімі і маскоўскімі князямі за ярлык на вялікае ўладзімірскае княжанне ўзмацнілася. Як напісаў адзін сучасны рускі гісторык, на баку цверскіх князёў былі правы старшынства, асабістае геройства, юрыдычныя і маральныя сродкі; на баку маскоўскіх - грошы і майстэрства прыстасоўвацца да абставін. У гэты час Цвер наладзіла сяброўскія адносіны з ВКЛ. У 1320 г. дачка Гедыміна Марыя выйшла замуж за цверскага князя Міхаіла, а неўзабаве дачка Кейстута выйшла за князя Івана Міхайлавіча. Досыць часта палкі Цверы ваявалі разам з войскамі ВКЛ супраць крыжакоў. У змаганні з цверскімі князямі маскоўскія ўвесь час абапіраліся на Арду і татарскія войскі. Так, маскоўскі князь Юрый Міхайлавіч знішчыў у Ардзе свайго сваяка Міхаіла Цверскага, але неўзабаве быў сам забіты ягоным сынам.

У 1327 г. Цвер узначаліла паўстанне супраць Арды. У горадзе быў забіты татарскі пасланнік і знішчаны ягоны атрад. Тады залатаардынскі хан даручыў маскоўскаму князю Івану Каліце пакараць цверцаў. Каліта ўзначаліў татарскае войска, стлуміў паўстанцаў і дашчэнту разрабаваў Цверскую дзяржаву. За гэта ў 1328 г. ён атрымаў тытул вялікага князя.

Аднак Цвер паступова адрадзілася і з дапамогай вялікага князя літоўскага Альгерда, які ў 1347 г. ажаніўся з цверскай князёўнай Юльянай, працягвала змагацца з Масквою. У лістападзе 1368 г. Альгерд падтрымаў цверцаў, пайшоў на Маскву, аблажыў яе і тры дні стаяў пад сценамі горада, аж пакуль не атрымаў выкуп.

У 1370 г. маскоўскі князь Дзмітрый зноў нападае на Цвер. Альгерд робіць другі паход на Маскву і бярэ яе ў аблогу 6 снежня 1370 г. У гэты час цверскі князь атрымлівае ў Ардзе ярлык на валоданне Ўладзімірскім княствам.

У 1372 г. войскі ВКЛ на чале з Вітаўтам і Кейстутам зноў уварваліся ў Масковію, каб падтрымаць свайго саюзніка. У 1375 г. маскоўскі князь Дзмітрый арганізаваў своеасаблівы "крыжовы паход" на Цвер, змабілізаваўшы вайсковыя дружыны дзевятнаццаці ўдзельных князёў. Цверскі князь Міхаіл мужна абараняўся, аблога Цверы доўжылася 5 тыдняў, але горад не здаваўся. Тады захопнікі разбурылі і знішчылі іншыя паселішчы вакол горада. Князь Міхаіл прапанаваў замірыцца, што і было зроблена.

У 1385 г. цверскі князь Васіль Міхайлавіч ажаніўся з дачкой кіеўскага князя Уладзіміра Альгердавіча, і сувязі з дынастыяй Гедымінавічаў зноў узмацніліся. Гэтаму спрыяла і тое, што сын вялікага князя Альгерда і цверскай князёўны Ягайла ў 1386 г. стаў польскім каралём. У 1430 г. вялікі князь Вітаўт разам з маскоўскім князем Васілём Васілевічам запрасіў на сваю каранацыю таксама цверскага князя Барыса Аляксандравіча. Шэсць тыдняў балявалі госці ў князя Вітаўта, але каранацыя не адбылася, бо па дарозе праз Польшчу карону скралі, а сам Вітаўт неўзабаве памёр. Аднак сувязі цверскіх князёў і Гедымінавічаў засталіся моцнымі, бо ад Альгерда цверская князёўна нарадзіла, акрамя знакамітага Ягайлы, яшчэ сем сыноў.

Найбольшы росквіт эканомікі і культуры Цверскай дзяржавы прыпадае на першыя дзве трэці XV ст., калі ў Масковіі ішлі доўгія грамадзянскія войны і набегі на Цвер спыніліся. У пачатку XV ст. цверскі князь Іван Міхайлавіч чаканіць свае грошы. Шырокая слава ішла пра цверскіх гарматнікаў як самых лепшых на Русі. У сярэдзіне XV ст. у пісьмовых крыніцах згадваецца імя знакамітага майстра-гарматніка Мікулы Крачэтнікава.

Апошні росквіт дзяржавы адбываецца пры князі Барысе Аляксандравічы. Вядомая яго асабістая зброя - рагаціна (від дзіды) з надпісам, што гэта рагаціна вялікага князя Барыса Аляксандравіча. Рукаяць яе абкладзена срэбрам і мае шмат гравіровак. Сярод іх - сцэны барацьбы, палявання, гутаркі, мыцця ў лазні, частавання і г. д.

Аднак пры Іване III Масковія зноў узмацнілася, вызвалілася ад ардынскай залежнасці і захапіла землі Ноўгарада. Наступіла чарга і Цверы. Спачатку тут, як у Ноўгарадзе, Пскове альбо Разані, была створана сярод баяр свая "пятая калона", якую Масква падкупіла грашыма. Вялікі князь літоўскі Казімір, стаўшы адначасова і польскім каралём, не захацеў падтрымаць ані Ноўгарад, ані Цвер. У верасні 1485 г. войскі Івана III узялі ў аблогу Цвер. Праз некалькі дзён падкупленыя баяры перайшлі на бок Масквы, і цверскі князь Міхаіл Барысавіч з невялікай дружынай здолеў дабрацца да межаў ВКЛ, а яго маці, княгіню Настассію, узялі ў палон і вывезлі ў Маскву. "І так скончылася Вялікае Княства Цвярское", - сумна адзначыў летапісец у Валынскім кароткім летапісе.

### 5. Вялікае Княства Разанскае

Разанскае княства ўзнікла ў 1129 г. і займала тэрыторыю Сярэдняй Акі ды вярхоўе Дона. Да прыходу татараманголаў тут жылі: славянскае племя вяцічаў і шмат мясцовых фіна-ўгорскіх народаў, што былі асіміляваныя славянамі. Другім пасля Разані ў княстве быў горад Пронск, які стаў удзельным княствам яшчэ ў 1180 г. Гэтае княства ўваходзіла ў склад Разанскай зямлі да 1483 г. У 1237 г. войскі хана Батыя знішчылі сталіцу дзяржавы ў такой ступені, што горад не здолеў адрадзіцца, і людзі яго пакінулі. Цяпер гэта тэрыторыя называецца Старая Разань і ўяўляе сабою вялікае гарадзішча, а побач ёсць сляды былога пасада. Археолагі вывучаюць Старую Разань пачынаючы з XIX ст. і зрабілі тут шмат унікальных адкрыццяў. Разанская зямля стала васалам Залатой Арды і мусіла плаціць ардынцам даніну, а князі - прасіць у ханаў ярлык на сваё княжанне. Новай сталіцай дзяржавы стаў горад Пераяслаў-Разанскі (з 1778 г. яго пачалі называць Разанню). Такім чынам, сённяшняя Разань знаходзіцца на адлегласці 50 км ад Старой Разані. Доўгі час разанскія князі мелі канфлікты з суседзямі, Масквою і ВКЛ. Ужо ў 1300 г. маскоўскія князі забралі ў Разані горад Каломну. У 1381 г. мяжа з Масквою пачала праходзіць па Ацэ. Росквіт Разані адбыўся падчас княжання Алега Іванавіча (1356-1402). У 1395 г. войскі Разані нападалі на блізкія да іх землі ВКЛ. У адказ князь Вітаўт разбіў разанскіх князёў (1395-1396 г.). Тым не менш, дружына Алега ў 1401 г. хадзіла на Смаленск, а ў 1402 г. - і на Бранск. Аднак пасля 1427 г. Разанская зямля на нейкі час стала васалам ВКЛ. У 1430 г. разанскі князь Іван Фёдаравіч прысягнуў як васал Вітаўту і быў у яго на з'ездзе ў Луцку, дзе чакалі каралеўскую карону. Пра эканамічную моц княства сведчыць той факт, што з часоў княжання Алега Іванавіча Разань выпускала сваю манету. Але з сярэдзіны XV ст. Разань становіцца васалам Масквы, і ў Разані з'яўляецца маскоўскі намеснік. У 1516 г. пасадзілі ў маскоўскую турму апошняга разанскага князя Івана Іванавіча, але той здолеў потым уцячы ў ВКЛ. Канчаткова ліквідавалі Разанскае княства ў 1521 г.

### АСНОЎНЫЯ ТЭРМІНЫ

***Берасцяная грамата*** - пісьмовы помнік XII-XIV стст., надпіс на бяросце.

***Болатаўская дамова*** 1348 г. - Пскоў атрымаў поўную незалежнасць ад Ноўгарада.

***Вечавы звон*** - сімвал незалежнасці Наўгародскай і Пскоўскай дзяржаў.

***"Вывад"*** - прымусовае перасяленне багатых жыхароў Ноўгарада і Пскова ў іншыя гарады Маскоўскай краіны.

***Гаспода*** - найвышэйшая рада пскоўскіх баяр.

***"Касцёр"*** - мураваная вежа пскоўскіх умацаванняў.

***Кром*** - пскоўскі крэмль.

***Насад (учан)*** - вялікі карабель, на якім, акрамя тавараў, перавозілі войскі.

***"Персі"*** - муры пскоўскіх умацаванняў.

***Прыгарады*** - умацаваныя пункты (гарады), якія ахоўвалі межы і падыходы да Ноўгарада.

***Пяціна*** - адміністрацыйная адзінка ў Наўгародскай дзяржаве.

***Уладыка*** - першаіерарх праваслаўнай царквы ў Ноўгарадзе і Пскове.

### НАЙВАЖНЕЙШЫЯ ПАДЗЕІ

***1327 г.*** - народнае паўстанне ў Цверы супраць татараў.

***1371 г.*** - вайна Маскоўскага і Разанскага княстваў.

***Пачатак XV ст.*** - Цвер выпускае ўласныя манеты

***1424 г.*** - чаканка пскоўскай манеты.

***1456 г.*** - перамога Маскоўскага княства над Ноўгарадам.

***1466-1472 гг.*** - вандроўка Афанасія Нікіціна ў Індыю.

***1471 г.*** - бітва на р. Шэлоні.

***1478 г.*** - канчатковы захоп Масквою Ноўгарада.

***1479 г.*** - захоп Масквою Вяткі - наўгародскай калоніі.

***1485 г.*** - далучэнне Цверскага княства да Маскоўскага.

***1510 г.*** - канчатковае далучэнне Пскова да Маскоўскай дзяржавы.

***1521 г.*** - канчатковае далучэнне Разанскага княства да Маскоўскай дзяржавы.

## РАЗДЗЕЛ XXI.
## ДАЦКАЕ КАРАЛЕЎСТВА. КАЛЬМАРСКАЯ УНІЯ. ШВЕЦЫЯ, НАРВЕГІЯ І ФІНЛЯНДЫЯ Ў XIV-XV стст.

*1. Данія.*
*2. Нарвегія.*
*3. Швецыя і Фінляндыя.*

### 1. Данія

У пачатку XIV ст. каралём Даніі два разы быў *Крыстафер II* (1319-1326 і 1330-1332 гг.). Новы кароль выклікаў незадаволенасць дацкіх магнатаў, якія павялічвалі падаткі і мытныя зборы, а таксама перадаў некаторыя свае паўнамоцтвы *рыгсроду* (радзе магнатаў) Даніі. Тым не менш, магнаты з пераменным поспехам змагаліся супраць караля, пры гэтым абодва бакі шукалі падтрымкі за мяжой, у Нямеччыне. У 1330 г. кароль, які ў 1326 г. мусіў уцячы з краіны, пры дапамозе Любека вярнуў сабе ўладу, але яна зрабілася намінальнай, у выніку чаго Данія распалася на асобныя магнацкія ўладанні. Частка дацкай тэрыторыі трапіла пад уладу Швецыі.

З 1340 па 1375 гг. Даніяй кіраваў сын Крыстафера *Вальдэмар IV Атэрдаг*. Ён праводзіў актыўную палітыку па ўз'яднанні краіны, сканфіскаваў многія магнацкія маёнткі, а ў 1360 г. кардынальна змяніў сістэму кіравання краіны. Была зроблена рэформа нацыянальнай рады (рыгсроду), куды ўваходзілі архібіскупы, біскупы і феадалы з асноўных замкаў Даніі. Рыгсрод стаў галоўным судом у дзяржаве. Пасля таго як войскі Даніі захапілі востраў Готланд з горадам Вісбю, у 1361 г. пачалася вайна з Ганзай, Швецыяй і некаторымі нямецкімі землямі (1367-1370 гг.). У выніку мірнай дамовы 1370 г. Ганза, якая перамагла ў гэтай вайне, атрымала значныя прывілеі на тэрыторыі Даніі і нават магла ўплываць на выбары новага дацкага караля.

У 1363 г. Вальдэмар IV аддаў сваю дачку Маргарыту за шведскага прынца *Хокана*, які пазней стаў каралём Нарвегіі. У выніку ўзнікла дацка-нарвежская унія, якая існавала з 1380 па 1814 год. Пасля смерці Вальдэмара IV карону магнаты Даніі перадалі пяцігадоваму сыну Маргарыты і Хокана *Олафу*, які пасля смерці бацькі з 1380 г. стаў адначасова каралём Нарвегіі і спадчыннікам шведскай кароны. Пры гэтым фактычная ўлада была ў руках яго маці, каралевы Маргарыты.

***Кальмарская унія.*** У 1397 г. у горадзе *Кальмары*, на паўднёвым усходзе Швецыі, адбыўся сумесны сход магнатаў і дзяржаўных рад Даніі, Швецыі і Нарвегіі, якія 17 чэрвеня таго ж года абралі адзінага караля і падпісалі сумесную унію.

Паводле гэтай дамовы сын караля пасля смерці бацькі абіраўся ва ўсіх трох краінах. Калі сына не было, стваралася супольная камісія для выбараў новага караля. Падчас вайны ўсе тры дзяржавы ваявалі разам супраць ворага. У мірныя часы кожная краіна жыла паводле сваіх законаў. Стваралася агульная магнацкая рада ў складзе 112 рыцараў з трох краін. Існавала Кальмарская унія да XVI ст. У 1523 г. з яе выйшла Швецыя; у 1536 г. Нарвегія страціла статус каралеўства і ператварылася ў дацкую правінцыю. Фактычным кіраўніком краін, што падпісалі унію, да сваёй смерці ў 1412 г. заставалася каралева Маргарыта Дацкая. Пасля смерці Маргарыты агульным каралём стаў *Эрык Памяранскі* (да 1439 г.). Ён ваяваў з Ганзай і Галштыніяй (Гольштайнам) і імкнуўся паставіць датчан на галоўныя пасады ў Нарвегіі і Швецыі. У 1434 г. блакада Ганзай партоў Швецыі спыніла імпарт з краіны медзі і жалеза і выклікала паўстанне шведскіх гарнякоў, якіх падтрымалі сяляне, царква і магнаты. У выніку паўстання, якое атрымала паразу, надзвычайныя падаткі былі паніжаны на 30 %. Наступным агульным каралём паводле кальмарскай уніі быў *Крыстафер III Баварскі* (1439-1448). Пасля яго смерці абрацьагульнага караля трох краін іх магнатам не ўдалося, што прывяло да дацка - шведскай вайны. У 1471 г. шведы перамаглі датчан і вярнулі сабе былую незалежнасць, але надалей фармальна яшчэ прызнавалі ўладу дацка-нарвежскага караля.

Зноў агульны кароль у падпісантаў Кальмарскай уніі з'явіўся толькі ў 1497 г. Ім стаў *Ханс*, які ўжо быў дацка-нарвежскім каралём з 1483 г.

### 2. Нарвегія

У пачатку XIV ст., калі краінай кіраваў кароль *Хокан V* (1299- 1319), Нарвегія была моцнай і заможнай краінай. Кароль умацаваў сваю ўладу, абмежаваў правы магнатаў і ў 1308 г. скасаваў баронскі тытул. Ён збудаваў некалькі новых замкаў і падтрымліваў стасункі з Ганзай, асабліва ў дачыненні да Англіі. Аднак сына ў караля не было, і ён пакінуў карону Нарвегіі сыну сваёй дачкі і шведскага прынца *Магнусу*. Такім чынам, Магнус стаў адначасова каралём і Нарвегіі, і Швецыі, што можа сведчыць пра існаванне нефармальнай уніі дзвюх краін. Магнус, у першую чаргу, займаўся шведскімі справамі і ў 1355 г. перадаў карону Нарвегіі свайму сыну *Хокану VI* (1355-1380). У часы яго ўладарання ў Нарвегію прыйшла эпідэмія чумы, ад якой памерла шмат людзей, у тым ліку і амаль усе магнаты краіны. У выніку іх месцы занялі магнаты з Даніі і Швецыі.



*Гістарычны сцяг Кальмарскай уніі*

*(Працяг у наступным нумары.)*

*Леанід Лаўрэш*

# Грамадскі дзеяч і навуковец Іван Дрозд

**Іван Міхалавіч Дрозд** нарадзіўся ў 1895 г. у сялянскай сям'і ў вёсцы ПрэцІма Арлянскай воласці Лідскага павета. З перапісу грэка-каталіцкоў Арлянскай царквы, вядома, што ў 1829 г. у вёсцы Прэціма жыве тры сям'і Драздоў.

Верагодна, як вялікая колькасць беларускіх дзеячоў, Іван Дрозд закончыў настаўніцкую семінарыю. Дакладна вядома, што ў часы Першай сусветнай вайны служыў афіцэрам.

У 1920 г. Беларускі нацыянальны камітэт ў Вільні накіраваў Івана Дразда для арганізацыі беларускіх школ у родную Орлю. Пра вынікі яго працы кажа тое, што ў канцы 1920 - пачатку 1921 г. беларускія школы працавалі ў наступных вёсках Арлянскай гміны - Маскалях, Зачэпічах, Дзям'янаўцах, Орлі і Ліпічне.

У 1921 г. польскія ўлады пачалі ліквідоўваць беларускія школы на Лідчыне. У красавіку гэтага года інспектар адукацыі Лідскага павета Вус, давёў беларускім настаўнікам, што беларускіх школ у будучым 1922 г. не будзе, *"усе зачыніць, а настаўніц і настаўнікаў ён церпіць толькі часова, думаючы, што з іх выйдуць добрыя настаўнікі польскіх школ, а не беларускіх"*. Справы інспектара Вуса не разыходзіліся з ягонымі словамі. Увосень 1921 г. былі зачынены беларускія школы ў вёсцы Сарокі Арлянскай воласці *"дзе жывуць выключна беларусы, а замест яе лідскі школьны інспектар п. Вус стараецца адчыніць польскую"*, з гэтай інфармацыі бачна, што Дрозд паспеў адкрыць беларускую школу і ў Сароках.

Іван Дрозд меў вялікі аўтарытэт сярод сваіх землякоў. Беларуская прэса паведаміла, што ўвосень 1921 г. валасная рада Арлянскай гміны Лідскага павета выбрала войтам гэтай *"воласці свядомага селяніна-беларуса з вёскі Прэціма, настаўніка Янку Дразда, але стараста павета не зацвердзіў яго на пасадзе"*.

Трэба сказаць, што ў тыя часы беларускія партызаны вялі сапраўдную вайну супраць польскіх уладаў, вясной 1922 г. партызаны перайшлі да актыўных баявых дзеянняў. Як заўжды ад ваеннага стану цярпела мірнае насельніцтва: *"Звяртаем увагу паслоў дэмакратычных партый у польскім Сейме. З в. Воля Арлянскае ... воласці палякамі забраны гр. Мікалай Павачка, якога хацелі застрэліць толькі за тое, што ён казаў, што без валасных прыказаў жаўнеры ня маюць права браць падводы адзіночнымі асобамі. Калі гр. Павачка ўказаў, што ў дэмакратычнай дзяржаве так нябывае, як яны робяць, то яго забралі як контррэвалюцыянера і адаслалі чамута на ў Ліду, а ў Слонім, а з Слоніма пашлюць у Варшаву ці Кракаў. Дзеля таго, каб узяць на парукі, патрабуе польская ўлада залогу 60 000 марак"*.

Якраз у 1922 г. Іван Дрозд быў абвінавачаны ў падбухторванні сялян і арыштаваны, але настаўнік аказаўся сапраўдным зухам і ўцёк з Арлянскага паліцэйскага пастарунка ў Літву. Праваслаўны святар Арлянскай царквы а. Васіль Харлап казаў, што Іван Дрозд меў кантакты з беларускім урадам Вацлава Ластоўскага ў Коўні. З Коўні настаўнік перабраўся ў Менск і напісаў свайму сябру, фельчару ў Орлі Аляксандру Бучу, што ў Менску ён *"вучыцца ў інстытуце"*.

У БССР атрымаў вышэйшую адукацыю. У 1930 г. уступіў у ВКП(б). Быў жанаты. Арыштаваны 04.11.1935 г. у Горках. Падчас арышту працаваў дацэнтам кафедры палітэканоміі Горацкага сельскагаспадарчага інстытута. 27.03.1936 г. асуджаны асобай нарадай пры НКВД за *"антысавецкую агітацыю і шпіянаж"* да 3 гадоў ссылкі ў Казахстан. У канцы 1930-х г. прыгавораны да 10 гадоў папраўча-працоўных работ. Этапаваны ў Волжскі канцлагер Яраслаўскай вобласці. Далейшы лёс невядомы.

Рэабілітаваны прэзідыумам Магілёўскага абласнога суда 02.02.1957 г. Асабовая справа Д. № 2411-сн захоўваецца ў архіве УКДБ Магілёўскай вобласці.

# Дэманструем нацыянальныя здабыткі на сусветным узроўні

Найвышэйшым вынікам гэтага юбілейнага года стала багата ілюстраванае выданне "Сусветная спадчына Францыска Скарыны", якое выйшла ў серыі "Энцыклапедыя рарытэтаў" на трох мовах - беларускай, рускай і англійскай . Кніга была выпушчана па заказу Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь выдавецтвам "Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі" накладам 1100 асобнікаў і прэзентавалася ў Нацыянальным мастацкім музеі 3 жніўня 2017 года.

Упершыню ў адной кнізе з ілюстрацыямі прадстаўлены ўсе 25 кніг беларускага першадрукара! У сучасным выданні наглядна паказана ўся кніжная спадчына Францыска Скарыны, якая сёння з'яўляецца нацыянальным здабыткам і захоўваецца ў кніжных і музейных зборах Беларусі, Расіі, Украіны, Германіі, Даніі, Польшчы, Літвы, Вялікабрытаніі, Славеніі, Чэхіі, ЗША. Кніга атрымала Гран-Пры Міжнароднага конкурсу краін-удзельніц СНД "Мастацтва кнігі - 2017" і Гран-Пры Еўразійскай міжнароднай кніжнай выставы "Eurasian Book Fair - 2017". Пра фундаментальны том мы пагаварылі з аўтарам навуковага тэксту і ўкладальнікам кнігі, кандыдатам культуралогіі спадаром Алесем Сушам.

*- З'яўленне такога маштабнага выдання сведчыць пра глыбокія змены ў светапоглядзе людзей і ў дзяржаўнай палітыцы. Пасля дзесяцігоддзяў атэізма духоўная спадчына асветніка становіцца цалкам даступнай народу замест "Капітала" К. Маркса і 40 тамоў Леніна. Ці не так?*

- Беларусы звяртаюцца ў сваіх поглядах і да мінулага, і да будучыні. Важна, што менавіта Беларусь сёння для нас пазіцыянуецца кропкай адліку. Мы ўспрымаем сябе не як перыферыю і сферу ўплыву іншых вялікіх культур і цывілізацый, а як самадастатковую дзяржаву, якая мае свае каардынаты, сваіх дзеячаў, чые імёны могуць упрыгожваць густоўныя мастацкія творы, падручнікі для дзетак і манаграфіі для дарослых. Мы маем сваю нацыянальную сістэму адліку і ўсведамляем сваю здольнасць для дэманстрацыі нацыянальных набыткаў на сусветным узроўні. Падрыхтоўка факсімільнага выдання і выпуск кнігі "Сусветная спадчына Францыска Скарыны" - адзін з крокаў, які паказвае найбагацейшыя дасягненні нашай культуры.

*- Такому выданню, напэўна, папярэднічала вялікая навуковая і багаслоўская падрыхтоўка?*

- Безумоўна. У справе скарыназнаўства шмат зроблена беларускімі і замежнымі даследчыкамі. Беларуская навукоўцы гэтай тэмай займаюцца шчыльна на працягу апошніх ста гадоў. Стагоддзямі напрацоўвалася скарыназнаўчая навуковая традыцыя, дзякуючы працам чэшскіх, расійскіх, нямецкіх і іншых аўтараў. Былі створаны фундаментальныя працы, прысвечаныя жыццяпісу Скарыны, яго творчай пладавітай дзейнасці і спадчыне. Сёння я і іншыя даследчыкі працуем з грунтоўнымі дасягненнямі






мінулых пакаленняў.Той пласт, які мы называем пачаткам беларускага кнігадрукавання, добра вывучаны. Тым не меньш, з'яўляюцца новыя знаходкі, версіі і інтэрпрэтацыі, версіі і гіпотэзы, якія трошкі інача адкрываюць для нас асобу першадрукара.

*- Вам удалося сабраць у адной кнізе ўсе 25 кніг Скарыны, апісаць іх змест і выгляд, даць звесткі пра месцазнаходжанне кніг, гісторыі знаходак.*

- Выпускаючы факсімільнае ўзнаўленне, пачынаючы з 2013 года, мы імкнуліся выпусціць якасную копію кожнага выдання паасобку: Кнігі "Быцця", кнігі "Выхад", кнігі "Лявіт", і на прыкладзе лепш захаванага асобніка з Расіі ці з Германіі якасна прадэманстраваць знешні выгляд кніг. Мы праглядалі і шукалі найбольш захаваныя асобнікі. У новым альбомным выданні "Сусветная спадчына Францыска Скарыны" мы спрабавалі вырашыць іншую задачу. Выданні друкара захаваліся па ўсім свеце і ў розным стане. Часам гэта цалкам захаваныя асобнікі, а часам - невялікія фрагменты, замучаныя, выцягнутыя з пераплётаў. Мы імкнуліся паказаць усё багацце і ўсю разнастайнасць кніжнай спадчыны. Гэта ўсё абсалютна розныя аб'екты культурнай спадчыны, кожны з іх мае сваю гісторыю бытавання, яны прайшлі праз розныя рукі, маюць унікальныя пазнакі, дарчыя надпісы. У прыгожым альбомным выданні мы здолелі прадэманстраваць кожны асобнік з розных краін свету, каб нашы грамадзяне мелі ўяўленне, як кнігі Скарыны выглядаюць у рэальнасці.

Менавіта на працягу пяці гадоў мы шукалі гэтыя выданні, займаліся адлічбоўкаю падчас адмысловых камандзіровак, часам нам рабілі сканы краіны-захавальнікі, спецыялісты працавалі ў іншых гарадах, адлічбоўвалі розныя арганізацыі, і цяпер можна пабачыць усе кнігі. Над выданнем працавала ўся бібліятэка цалкам, мелі дачыненне ўсе тэхнічныя і гаспадарчыя службы.

*- Як Вам дапамагалі дзяржаўныя інстытуцыі?*

- Вельмі актыўна. Была ініцыявана дзяржаўная праграма " Культура Беларусі" на 2011-2015 гады, у межах якой было асобнае заданне па фарміраванні лічбавай бібліятэкі Францыска Скарыны. Яна не шырока фінансавалася, але мела вялікую ідэйную падтрымку. Спасылаючыся на яе, мы змаглі атрымаць дапамогу пасольстваў і шматлікіх прыватных арганізацый, якія з намі працавалі, напрыклад, банка " БелВЭБ", які фінансаваў факсімільнае выданне.

Нацыянальная бібліятэка рэалізавала шэраг яркіх выдавецкіх праектаў з 2006 па 2012 год па ўзнаўленню факсімільнай спадчыны такіх выданняў, як "Слуцкае Евангелле", "Полацкае Евангелле", "Баркалабаўскі летапіс", "Буквар" 1767 года, "Посах кіравання" Сімяона Полацкага, "Тураўскае Евангелле" і кнігі XX стагоддзя: творы Я. Коласа, Я. Купалы, В. Ластоўскага.

Наша ўстанова ішла доўгім шляхам да юбілею беларускага кнігадрукавання. Набраўшыся пэўнага досведу мы падступілі да ідэі першага поўнага ўзнаўлення спадчыны Францыска Скарыны. У ідэі адыгралі ролю многія людзі, было складанае навуковае і арганізацыйнае забеспячэнне, ідэю падтрымала кіраўніцтва Міністэрства культуры і Нацыянальнай бібліятэкі. Адпачатку быў створаны рэдакцыйны савет.

Падтрымка была на самым высокім дзяржаўным узроўні. Міністэрства замежных справў дапамагло ў арганізацыі прэзентацыйных мерапрыемстваў у краінах Еўропы і свету. Вельмі прыемна, што зладжаная праца дала вынік. У нас была свая каманда, якая працавала над факсімільным узнаўленнем. Я быў адказным рэдактарам. Навуковыя тэксты да кожнага тома рыхтаваліся супольна мною і Галінай Уладзіміраўнай Кірэеевай, загадчыцай навукова-даследчага аддзела кнігазнаўства, спецыялісты рыхтавалі пераклады тэкстаў на англійскую мову. Усім працэсам кіраваў наш дырэктар, доктар педагагічных навук Раман Сцяпанавіч Матульскі.

*- Якія традыцыі веры і любові да беларускага слова захоўваюцца ў Вашай сям'і?*

- Мае бацькі былі актыўнымі вернікамі, хадзілі ў царкву да споведзі, для іх вера мела вялікае значэнне ў жыцці, агульнакультурны фон выхавання перадаваўся праз пакаленні. У школьныя і студэнцкія гады адной з любімых завядзёнак у мяне было наведваць кнігарні, хадзіць на прэзентацыі. Маці была журналістам, працавала ў Белтэлерадыёкампаніі, у Інстытуце культуры Беларусі. Для яе культурная тэматыка была важнай ад пачатку. Таму і я захапіўся пытаннямі культуры і ў гэтым накірунку выраўшыў атрымаць адукацыю.Тэмай маёй дысертацыі была "Культурная спадчына грэка-каталіцкай царквы ў Беларусі ў кантэксце дыхатаміі "Усход - Захад".

Для нашай сям'і традыцыі слова, традыцыі кнігі многа значаць. Мая жонка Ксенія таксама бібліятэкар, мы з ёй супольна працавалі ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі, а зараз яна даглядае дзетак. Яна была каардынатарам шэрагу кніжных праектаў, звязаных з гістарычнымі кнігазборамі, з бібліятэкай Сапегаў, яна была складальнікам зборніка " Здабыткі". Яна паходзіць з інтэлігенцкага асяроддзя, яе маці была выкладчыцай, бацька - выдаўцом, традыцыі слова для яе з дзяцінства былі блізкімі і важнымі. Сёння мы выхоўваем сваіх дзетак - Кастуся і Караліну.

*- У Нацыянальнай бібліятэкі яшчэ шмат планаў на будучыню?*

- Мы займаемся рэалізацыяй маштабнага праекту - Міжнароднай выставай "Францыск Скарына і яго эпоха". Гэта вялікі праект, які будзе ўвесь час развівацца і мадыфікавацца: будуць праходзіць часовыя выставы, кінапаказы, дзіцячыя заняткі, адмысловыя адукацыйныя праекты.

**Ад аўтара:** Падрыхтоўкай кнігі "Сусветная спадчына Францыска Скарыны" і зборам поўнага факсімільнага ўзнаўлення навукоўцы здзейснілі подзвіг, роўны вычыну першадрукара. З выданнямі можна пазнаёміцца ў аддзелах беларускай літаратуры і рэдкай кнігі Нацыянальная бібліятэкі.

*Гутарыла Эла Дзвінская,*
*фота аўтара.*

**На здымку:** 1. Георгій Якаўлевіч Галенчанка і Аляксандр Суша; 2. Кніга "Сусветная спадчына Францыска Скарыны".

*(Працяг тэмы на ст. 8.)*

# Росшукі каштоўных старадрукаў

(Працяг. Пачатак на ст. 7.)



- Кнігі маюць свае няпростыя лёсы, поўныя прыгодаў, выпрабаванняў і пакутаў...

Дапоўніла нашу размову пра збор Скарынаўскіх выданняў загадчыца навукова-даследчага аддзела кнігазнаўства Нацыянальнай бібліятэкі Галіна Уладзіміраўна Кірэева. Яна рыхтавала навуковыя тэксты як для кнігі "Сусветная спадчына Францыска Скарыны", так і для поўнага факсімільнага ўзнаўлення ўсіх кніг першадрукара.

- Біблія Францыска Скарыны каштоўная не толькі з пункту гледжання гісторыі друку Святога Пісання. Яе тэксты і сёння захапляюць гуманістычнымі, этычнымі і асветніцкімі памкненнямі выдаўца. Гэта сапраўдны помнік кніжнага мастацтва. На яе старонках ёсць шмат таямнічых, інтрыгуючых рэчаў.

Нашу калекцыю з 10 кніг Францыска Скарыны, якія знаходзяцца на Беларусі, Дзяржаўная ўніверсітэцкая бібліятэка БССР набыла ў 1925 годзе, калі ў Мінску адзначалася 400-годдзе беларускага кнігадрукавання (адпаведна даце выдання апошняй кнігі Скарыны -"Апостал"). У часопісе "Полымя" праходзіла інфармацыя пра гэта. Тады бібліятэцы былі выдзелены грошы і яна набыла ў ленінградскага бібліяфіла В. Камарніцкага калекцыю кніг Францішка Скарыны і старажытных рукапісаў. Падчас вайны фонды бібліятэкі не былі эвакуяваныя. На пачатку 1944 года найбольш каштоўная частка фонду была вывезена за мяжу. Кнігі апынуліся ў Заходняй Польшчы, у Сілезіі. Пасля вайны эшалон з кнігамі прывезлі на Радзіму. Старадрукі пацярпелі, але не моцна. На калекцыі захаваліся нашы даваенныя шыфры, таму мы дакладна ведаем, што гэта тыя асобнікі, якія знаходзіліся ў фондзе бібліятэкі да вайны. З таго часу яны ў нас захоўваюцца. У 1990-я гады некалькі кніг прайшлі рэстаўрацыю.





Для факсімільнага ўзнаўлення я рыхтавала кнігазнаўчую частку, што датычылася непасрэдна асобнікаў: дзе яны знаходзяцца, як захоўваюцца, якая там арнаментыка, якія гравюры ўключаны, як можна апісаць ініцыялы, якія шрыфты выкарыстоўваліся. Апісваўся канкрэтны асобнік канкрэтнай бібліятэкі. У рэдкіх выпадках, калі яны не захаваліся ў поўным аб'ёме, мы апісвалі састаўныя асобнікі, напрыклад, "Псалтыр". У наш збор ўвайшлі пражскія і віленскія выданні, у тым ліку "Малая падарожная кніжка" і "Апостал". Пераклад прадмоў на сучасную беларускую мову зрабіў А.У. Бразгуноў.

Важна, што не толькі кнігазнаўцы ажыцявілі свае даследванні, але і фінансавыя структуры ўзялі ўдзел у сацыяльна-значымым гуманітарным праекце па стварэнні факсімільнага выдання поўнага збору кніг Францішка Скарыны. Такая значная падзея, як 500-годдзе беларускага кнігадрукавання, была важнай для супрацоўнікаў банка " БелВЭБ", а Нацыянальны Банк выпусціў юбілейную манету.

Збор факсімільнага ўзнаўлення атрымаюць бясплатна абласныя, раённыя і універсітэцкія бібліятэкі. Іх наведвальнікі змогуць прачытаць тэксты на трох мовах: рускай, беларускай і англійскай. Гэта будзе стымулам для лепшага знаёмства чытачоў з бібліяграфіяй, гісторыяй рэлігіі і мастацтвазнаўствам. А кнігу "Сусветная спадчына Францыска Скарыны" можна набыць у кнігарнях сталіцы.

3-4 верасня 2017 г. у Нацыянальнай бібліятэцы Украіны імя Ў.І. Вярнадская, прайшла прэзентацыя поўнага факсімільнага ўзнаўлення кніжнай спадчыны першадрукара. Намеснік дырэктара Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі А.А. Суша перадаў у фонды найбуйнейшай бібліятэкі Украіны 20-томны камплект выдання і выступіў з паведамленнем аб выніках пяцігадовай працы па падрыхтоўцы ўнікальнай публікацыі. Мы выказалі сваю шчырую ўдзячнасць украінскім калегам за супрацоўніцтва. Перадача лічбавых копій з Украіны ў Беларусь і факсімільнага выдання з Беларусі ва Украіну будуць стымуляваць далейшыя культурныя і навуковыя сувязі нашых краін. У Кіеўскай бібліятэцы ў гэты час праходзіла выстаўка, прысвечаная 500-годдзю Рэфармацыі.

*Гутарыла Эла Дзвінская,*
*фота аўтара.*

На здымках:
1. Галіна Уладзіміраўна Кірэеева;
2. Беларускія даследчыкі ў Кіеве;
3. Поўнае факсімільнае ўзнаўленне твораў Ф. Скарыны.

# Песні яднаюць народы



II Фестываль польска-беларускай культуры "Еднасць" прайшоў у Менску ў Палацы культуры імя Шарко. У ім ўзялі ўдзел каля 300 удзельнікаў з 20 беларускіх калектываў з розных гарадоў, якія прадстаўлялі культурныя здабыткі абодвух народаў. Лаўрэатамі фестывалю сталі хоры "Дружба", "Маёвы квят", дуэты "WitaM" і " Крышталь" ды іншыя калектывы. Арганізатарам фестывалю з польскага боку выступіла пані Ірэна Конан, якая жыве ў Беластоку і ўзначальвае арганізацыю: Fundacja na rzecz pomocy dzieciom z Grodzienszczyzny.

Як распавяла выкладчыца курсаў польскай мовы ў ТБМ спадарыня Леанарда Мухіна, палякі цесна супрацоўнічаюць з прадстаўленай у Менску арганізацыяй Polska Macierz Szkolna. З іх дапамогай кожнае лета беларускія дзеткі маюць магчымасць паехаць на адпачынак у летнік у Польшчу.

*Э. Дзвінская,*
*фота аўтара.*

# Літаратурныя сустрэчы на Лідчыне









Працягваюцца літаратурныя сустрэчы на Лідчыне. 20 кастрычніка гасцямі вучняў Бердаўскай і Першамайскіх школаў сталі паэт Міхась Скобла і спявачка Таццяна Грыневіч. Школьны графік прадугледжваў працягласць сустрэч у адзін урок, таму рытм быў даволі напружаным.

У Бердаўскай школе на сустрэчы былі ў асноўным вучні малодшых класаў, таму і рэпертуар вершаў ды песень быў адпаведны. Вершы-віктарыны, вершы-загадкі, пытанні пра асноўную культурніцкую падзею гэтага года - 500-годдзе беларускага кнігадрукавання.

У Першамайскай школе вучні былі ад шостага класа і старэйшыя, але і тут не абышлося без віктарын, пры гэтым у абедзвюх школах яны былі розныя.

Песні былі ў асноўным школьнай тэматыкі, гэта значыць на вершы, якія дзеці праходзяць у школе. Але там вершы, а тут цудоўныя песні.

Пасля імпрэз Таццяна Грыневіч перадавала школам адукацыйныя матэрыялы па беларускай літаратуры, каб урокі былі больш цікавымі.

*Наш кар.*

*Рэдактар Станіслаў Вацлававіч Суднік*

*Заснавальнік:*
ТБМ імя Францішка Скарыны.
*Пасведчанне аб рэгістрацыі* № 908 ад 18 снежня 2009 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.
*Адрас рэдакцыі:*
231293, Лідскі р-н, в. Даліна.
*Адрас для паштовых адпраўленняў:*
231282, г. Ліда-2, п/с 7.
*E-mail:* naszaslowa@tut.by

*Рэдакцыйная калегія:*
Алена Анісім, Юрась Бабіч, Юля Бажок, Марыя Баравік, Аляксей Карпенка, Эла Оліна, Ігар Пракаповіч, Аляксей Пяткевіч, Станіслаў Суднік, Павел Сяцко, Алег Трусаў, Дзяніс Тушынскі, Аляксей Шалахоўскі.
**http://naszaslowa.by/ http://pawet.net/**
**http://kamunikat.org/ http://tbm-mova.by/**
**http://nashaslova.mns.by/**

*Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзеней інфармацыі. Рэдакцыя рукапісы не вяртае.*

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні.
231300, г. Ліда, вул. Ленінская, 23.
Выдавец: Установа інфармацыі "Выдавецкі дом ТБМ".
Газета падпісана да друку 23.10.2017 г. у 17.00. Замова № 2126.
Аб'ём 2 друкаваныя аркушы. Наклад 1500 асобнікаў.
*Падпісны індэкс:* 63865.
*Кошт падпіскі:* 1 мес.- 1,43 руб., 3 мес.- 4,29 руб.
*Кошт у розніцу:* па дамоўленасці.